*—Людзьмі звацца!*
*Янка Купала*

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

# ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
16
ЖНІЎНЯ
1991 г.
№ 33 (3599)
ВЫХОДЗІЦЬ з 1932 г.
КОШТ—15 кап.
(Па падпісцы — 10 кап.)

## АСЦЯРОЖНА, СТАЛІНІЗМ!

Зянон ПАЗНЯК: «Асцярожна, сталінізм! На Беларусі гэтая засцярога цалкам дапушчальная хоць бы таму, што камуністычная партыя БССР у сваёй правячай і пенсіянерскай наменклатурнай верхавіне якраз і з'яўляецца прыстанішчам таго сталінскага бальшавізму, што ажыццяўляў тэрор».

СТАРОНКА 4.

## ШТО ГЭТА ЗА ДРЭВА?

Нататкі Карласа ШЭРМАНА з кубінскай паездкі.

СТАРОНКІ 5, 12.

## БУМЕРАНГ

Галіна ТЫЧКА: «Засмечанай на працягу дзесяцігоддзяў афіцыйнай і неафіцыйнай прапагандай «Polski od morza do morza» нацыянальнай самасвядомасці сярэдняга паляка цяжка прызвычаіцца да думкі, што паміж Масквой і Варшавай жыве самабытны народ, які не атаясамлівае сябе ані з палякамі, ані з рускімі...»

СТАРОНКІ 6—7.

## ХТО ЖЫВЕ Ў КВАТЭРЫ КАЛАМБІНЫ

П'еса Л. Петрушэўскай у Навучальным тэатры Мінскага інстытута культуры.

СТАРОНКА 11.

## РЭЛІГІЯ І МОВА

Артыкул чацвёрты: у цісках праваслаўя і каталіцызму.

СТАРОНКІ 13—15.

## РАЗАМ ПЯЧЫ КАРАВАЙ

Польскі друк пра Беларусь і беларусаў.

СТАРОНКІ 14—15.



І поле пяройдзена, і жыццё пражыта.

Фота А. КЛЕШЧУКА.



**Леанід ГАЛУБОВІЧ**

# Два вершы лета 1991

## I

«Отравлен хлеб и воздух выпит».
(О. Мандэльштам)

**Лагодны, ціхі, з вызначаным лёсам,
Я створаны нашчадкамі Тварца,
Каб у харале людства шматгалосым
Свой голас зліць з усімі да канца.**

**У траў лячэбных востры пах бензіну.
Ад колаў квола хіліцца чабор.
І кроў, нібыта ад амінізіну,
Санліва запаўняе сэрца створ...**

**...Калі ніхто не ведае пачатку
І ўсе ідуць няведама куды...**

**Пастаўце мне апошнюю пячатку,
Сцярыце на Зямлі мае сляды!**

**Над бацькам смерць крыло сваё занесла,
А цень яе ў мяне над галавой...
Мы з ім жылі пад Машукоўскім лесам,
Калі трава яшчэ была Травой...**

**О, памятай, камп'ютэрны нашчадак,
Каб вымасціць зваротны Шлях,
хаця б
Увесь той лес не высякай для кладак —
Прастуй па нашых ёдзістых касцях...**

## II

«И думал я: витийствовать не надо.
Мы не пророки, даже не предтечи.
Не любим рая, не боимся ада,
И в полдень матовый
горим, как свечи».
(О. Мандэльштам)

**Спякота пякельна апальвае лоб.
Згараю, бы свечка, аплаўлены потам...
Як соладка славіў жыццё ты ўзахлёб,
І знаць не жадаўшы, што здарыцца
потым.**

**У ліпаў пасохлі лістоў языкі...
Ржавее і шорхне трава хваравіта...
А мы, як былі, так і ёсць — мужыкі.
Стаім над Айчыны магілай разрытай.**

**Так жаласна плачам, так сумна гундзім
Над тым, што нам моцы і веры давала.**

**Не ў неба, а ў глебу панура глядзім,
Бо плоці ў нас многа і духу ў нас мала.**

**Куды мне замглёны пагляд скіраваць!
Навокал пакорна-гарбатыя спіны...
О, колькі ж сябе ад Цябе вызваляць,
І белую кроў тваю піць з пупавіны!!**

**Ні ў чым не павінен. І вінен ва ўсім.
Зжынаю свой лёс, нібы жніўеньскі
колас...
Хаўтуры паўсюдна на Белай Русі —
Што нават і плакаць няма каму ўголас...**

**Прабач ты нас, Маці, — такі ўжо наш
род...
А дочкам сваім перарэж пупавіны —
Хай вызваляць свой адбалелы жывот,
Нібыта Зямлю з Чалавекам адзіным.**

г. Менск.
2 ліпеня — 8 жніўня.

**АДГАЛОСКІ**

# НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ ПАЧЫНАЕЦЦА З СЯБЕ

Паспалітага святкавання Дня Незалежнасці ў рэспубліцы не атрымалася. Не хапіла ці палітычнай смеласці ў кіраўніцтва, ці грошай на «ўрачыстыя мерапрыемствы» — застаецца толь[illegible]адаць. Але нас змалку пры[illegible]ылі, што прыкметай **сапраўднага** свята з'яўляецца выхадны дзень і свабодны продаж піва. 27 ліпеня нічога падобнага ў БССР не назіралася, таму свята, можна лічыць, — не было.

Відаць, той, хто плаціць, заказвае не толькі музыку, але і свята. У нашым выпадку дзяржава плаціць не захацела, паказваючы сваю абыякавасць да дэкляраванага Дня. Цікавы ўсёткі феномен— савецкія святы. Раней у нас кожная «чырвоная» дата ў календары святкавалася нязменна гучна і нязменна ў маштабах краіны. Істотных адрозненняў паміж, скажам, гадавінай Кастрычніка і Днём шахцёраў не было. Праз тое «смак» святкавання прыядаўся, губляў адметнасці, а разам з гэтым дэвальвавалася само паняцце свята.

Пасля падзей 7 лістапада 0 г. мы пачалі мацней задумвацца над сэнсавай нагрузкай розных дат і... часта не знаходзіць яе. Можа, па гэтай прычыне спакваля адыходзяць у нябыт 22 красавіка, 1 Мая і безліч прафесійных «дзён», дэкрэтаваных у 60—70 гг. Становіцца зразумелым, што ўсе гэтыя святы былі пазбаўлены галоўнага — **асабістага** сэнсу для асобна ўзятага грамадзяніна. Новым жа датам, каб быць прынятымі краінай, ужо не хапае толькі намінальнага абвяшчэння: патрабуецца асабістая падтрымка грамадзян. Дзяржаўнае свята Незалежнасці, відаць, больш за іншыя святы, базуецца на асабістай экзістэнцыі (пачуванні) людзей, бо стан незалежнасці, трэба меркаваць, — у першую чаргу ўнутранае, а не грамадскае пачуццё.

Паколькі размова тычыцца Беларусі, дык экзістэнцыяльным зместам яе незалежнасці слушна было б лічыць незалежнасць самой беларушчыны. Здаецца, дэ-юрэ мы маем і Закон аб мовах, і Закон аб культуры, на якія спасылаюцца народныя дэпутаты, палітычныя лідэры, журналісты. Але ці падтрымліваюць іх гэтыя законы ў паўсядзённым, «звычайным» жыцці, ці не з'яўляюцца яны толькі змушанай аздобай грамадскага жыцця, якое вызначаецца «законамі» зусім іншымі? Можна, вядома, знайсці лічбы на карысць «беларусізацыі» школ і садкоў, можна пры жаданні здабыць іншыя аргументы на карысць росквіту беларушчыны. Але паспрабуйце проста выйсці за кабінетныя сцены і адчуць гэты дэкляраваны росквіт? Што знойдзеце? Адразу знойдзеце кіяскёраў, якія вас «не понимают», бо звяртаецеся па-беларуску; знойдзеце такое ж «неразуменне» ў грамадскім транспарце; знойдзеце і такіх аматараў газет, якія пра «ЛіМ» чуюць упершыню і ніколі яго не чыталі. Катэгорыя вось такіх сучаснікаў, для якіх не існуе паняцця «Адраджэнне», досыць шматлікая, і яшчэ праблематычна, хто з нас з'яўляецца ў жыцці ракой, а хто — прытокамі: мы ці **яны.**

Адзін знаёмец расказваў, як пры медычным аглядзе доктар сказаў, што ведае яго. «Чаму?» — «Таму што паўгода назад вы былі ў мяне першым беларускамоўным пацыентам». Два калегі-журналісты пад час камандзіроўкі з Мінска ў перыферыйнае мястэчка Гродзенскай вобласці спрабавалі замовіць білеты ў аўтобуснай касе. «У вас неправильный белорусский язык», — пастуціла строгая заўвага ад пажылой жанчыны (як высветлілася, агранома). Адзін з сяброў своечасова знайшоўся і адказаў: «Вы хотите сказать, что владеете «правильным» русским языком?» — «И всё равно ваш белорусский язык ненастоящий...»

Такіх «ільфаўскіх» гісторый на нашым матэрыяле можна занатаваць багата. З іх гады чатыры назад пачыналася адраджэнцкая публіцыстыка. Цяпер многія моршчацца: маўляў, гэта — ужо сказанае слова, не новае. Але з'ява, апісаная гэткім «эмацыянальным чынам», працягвае існаваць, не знікае, і таму гумарыстычныя гісторыі з нашага культурнага быцця маюць, відаць, права на паўтарэнне. Сэнс іх, на маю думку, зводзіцца да наступнага: беларушчына ў «чыстым выглядзе» няўтульна пачувае сябе на Радзіме, ёй увесь час даводзіцца трываць крытычныя шпількі з боку прадстаўнікоў масавай сацкультуры (ці, дакладней гаворачы, квазікультуры). **Беларушчыне наканавана ўвесь час змагацца за сябе, бо носьбіты яе складаюць грамадскую меншасць.**

Але ці можна змагацца без унутраных сіл? Іх, гэтых сіл, пры сённяшняй культурнай кан'юнктуры не пазычыць нішто: ні новыя партыі, ні фармальная беларусізацыя. Сілы дае толькі **свойскае** стасункавае асяроддзе, у якім не трэба змагацца — можна проста пачуваць сябе самім сабою. У гэтым плане падаецца сімптаматычным, што моладзь, студэнцтва выбіраюць сёння не фронт, не партыі, а асветніцкія суполкі, харавыя капэлы, верніцкія абшчыны з беларускім сумоўем. Там стымулюецца асабістая, унутраная незалежнасць.

Відаць, пошукамі такой незалежнасці можна растлумачыць і сур'ёзныя заявы некаторых партый (рэспубліканскай, напрыклад) аб патрэбе «нацыянальных засценкаў», у якіх аўтэнтычныя беларусы маглі б захоўвацца ад непажаданых уплываў масавай, нацыянальна-няпэўнай культуры.

На сённяшні дзень прыхільнікам роднага слова не пазбегнуць духоўнага змагання і супрацьстаяння з акаляючым социумам. Гэта наша планіда, якую не пераадолеюць нават змагары за хуткую палітычную незалежнасць. Незалежнасць пачынаецца з сябе. Для тых, хто, шукаючы самога сябе, аднойчы зразумеў, што «разам з беларушчынай мы трацім і лепшую частку чалавечнасці» (І. Канчэўскі), — незалежнасць ужо пачалася. Для такіх грамадзян асабістае свята ніколі не канчаецца.

**Юрась ЗАЛОСКА.**

# Памяці Яна Чачота

Сёлета споўнілася 195 гадоў з дня нараджэння Яна Чачота — беларускага і польскага паэта, фальклярыста. Цяжка перабольшыць уклад гэтага чалавека ў развіццё культуры, вось толькі ўспаміналі мы нашага земляка ад выпадку да выпадку. Але ёсць і зрухі да лепшага. Два гады назад, напрыклад, выдавецтва «Мастацкая літаратура» выпусціла ў свет кнігу Яна Чачота «Наваградскі замак». У актыў трэба запісаць і сумеснае мерапрыемства, што правялі Гродзенская абласная арганізацыя Беларускага фонду культуры і Літоўскі фонд культуры. Сустрэчу яны назвалі «Дзень памяці Яна Чачота».

Беларуская і літоўская дэлегацыі сустрэліся на граніцы дзвюх рэспублік, непадалёку ад Друскенікаў. Былі тут цікавыя размовы, абмен думкамі, гучалі песні ў выкананні самабытнага этнаграфічнага калектыву, што прыехаў з радзімы паэта — вёскі Малюшычы Карэліцкага раёна.

Затым усе накіраваліся ў вёску Ротніца. Тут 23 жніўня 1847 года на касцёльных могілках быў пахаваны Ян Чачот, аб чым напамінае надмагільны помнік. Да яго падножжа ўскладаюцца кветкі. Са словам пра выдатнага дзеяча нашай культуры, аднаго з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры, блізкага сябра Адама Міцкевіча, — выступілі прадстаўнікі Беларускага і Літоўскага фондаў культуры. Усе яны падкрэслівалі значэнне творчай спадчыны Яна Чачота для развіцця культуры Беларусі, Літвы і Польшчы. Гаварылася і пра тое, што шмат трэба зрабіць для ўшанавання яго памяці. Прагучала такая прапанова: уключыць месцы, звязаныя з жыццём і творчасцю Яна Чачота, у турыстычныя маршруты, каб у вёску Ротніца часцей заглядвалі краязнаўцы, ды і проста экскурсанты з Беларусі.

Працягвалася праграма «Дня памяці» ў Друскеніках у санаторыі «Беларусь», дзе сёлета папраўляюць здароўе юныя жыхары нашай рэспублікі. Тут, у сценах санаторыя, адбылася імправізаваная краязнаўчая канферэнцыя. Са змястоўнымі паведамленнямі аб асобных перыядах жыцця і творчасці Чачота выступілі гарадзенцы С. Дрозд, Ф. Ігнатовіч, а таксама літоўскія краязнаўцы.

Трэба спадзявацца, што сумеснае беларуска-літоўскае мерапрыемства будзе мець працяг. На кастрычнік у Гародні плануецца правесці міжнародную краязнаўчую канферэнцыю, куды запрошаны і калегі з Літвы. У літоўскім жа гарадку Меднікі, дзе знаходзіцца старадаўні замак, літоўцы ў сваю чаргу мяркуюць правесці этнаграфічна-гістарычнае свята, прысвечанае нашаму агульнаму мінуламу.

Праз пяць гадоў будзе адзначацца 200-годдзе з дня нараджэння Яна Чачота. На думку гародзенскага краязнаўца А. Майсяёнка, ужо цяпер трэба пачынаць рыхтавацца да гэтай даты, каб адзначыць яе годна.

**Міхаіл ДУБРАВІН,**
**рэдактар абласнога радыё.**
г. Гародня.

Фота У. ВЫДЭРКІ.

**З ПОШТЫ ТЫДНЯ**

# ІХ РАДАСЦІ НЕ БЫЛО КАНЦА...

**Жанчына і мужчына, абодва ўжо сталага ўзросту, былі апошнімі наведвальнікамі музея ў той дзень. Яны адразу прыцягнулі да сябе маю ўвагу, мабыць, сваёй разгубленасцю і той нервознасцю, з якой аглядалі залы музея. Запыняліся найперш ля фотоздымкаў. Па ўсім было відаць, што ініцыятарам гэтай экскурсіі была жанчына. Яна штосьці шэптам, узрушана тлумачыла свайму спадарожніку.**

**Я падышла да іх і запытала: «Вы, мабыць, чымсьці занепакоены? Можа, чым-небудзь я вам дапамагу?». Жанчына адказала, што яны з братам прыехалі з Магілёва. Як даведаліся, што ў Ляўках ёсць музей Янкі Купалы, адразу сабраліся ў дарогу. Іх бацька ў даваенныя гады працаваў старшынёй сельскага Савета ў Шклоўскім раёне. Ён быў знаёмы з Янкам Купалам. У дзіцячай памяці жанчыны засталіся бацькавы расказы пра вялікага паэта. Яна памятала фотаздымак, які вісеў у хаце на самым пачэсным месцы. На ім Я. Купала быў сфатаграфаваны з рабочымі Копыскай мэблевай фабрыкі. На гэтым здымку быў і іх бацька. Яна з гонарам расказвала пра той здымак, аб якім у той час ведала ўся вёска. Я. Купала, гаварыла жанчына, быў у нашым дзіцячым разуменні найлепшым сваяном, які яшчэ і вельмі цудоўныя вершы піша.**

**— Толькі вось здымак мы не зберaглі, ён згарэў у час вайны разам з нашай хатай. Не вярнуўся з вайны і бацька. Зараз мы з братам прыехалі з вялікай надзеяй пабачыць гэты здымак тут, у музеі.**

**Хваляванне гэтых людзей перадалося і мне. Я паказала ім фатаграфію, дзе Я. Купала з работнікамі Копыскай мэблевай фабрыкі. Сярод работнікаў яны адразу пазналі свайго бацьку.**

**Неўзабаве яны пакінулі музей-запаведнік, а сустрэча з імі назаўсёды засталася ў маім сэрцы. Я ж, дурніца, нават прозвішча іх не спытала. Ды зрэшты, такой бяды. Галоўнае, што жыве паэт, жывуць гэтыя мясціны ўспамінамі ў сэрцы нашых людзей.**

**Лілія УПЕНІК,**
**экскурсавод музея-запаведніка Я. Купалы «Ляўкі».**

# Бумеранг

## Замест рэцэнзіі

ПАЗАЛЕТАСЬ у Варшаве выйшаў у свет чарговы (трэці) том «Гісторыі еўрапейскіх літаратур» пад рэд. Уладзіслава Фларыяна. Былі змешчаны тут і нарысы па гісторыі нашай літаратуры. Аўтар іх — Тэлесфор Позняк — досыць добра арыентуецца ў беларускім прыгожым пісьменстве і, па ўсяму відаць, нядрэнна валодае беларускаю моваю. Апошняе вынікае хаця б з таго, што прозвішчы нашых пісьменнікаў падаюцца не толькі па-польску, але і ў беларускай (а не рускай, як звычайна бывае ў польскім друку) транскрыпцыі. Дарэчы, Т. Позняк нават падкрэслівае памылку, якая часта назіраецца ў Польшчы пры напісанні прозвішча В. Быкава — канцовае рускае в замест ў.

«Нарысы» імкнуцца расказаць пра развіццё нашай літаратуры, пачынаючы ад X стагоддзя і заканчваючы 1987 годам, Аб'ём, праўда, займаюць невялікі: недзе трошкі больш 60-ці кніжных старонак. Затое багата і добра ілюстраваныя: ёсць тут партрэты, бадай, усіх найбольш знаных беларускіх пісьменнікаў, літаграфіі і гравюры вядомых і невядомых майстроў, ілюстрацыі паводле карцін славутых беларускіх мастакоў XIX — пачатку XX стагоддзя. У адрозненне ад айчынных акадэмічных выданняў у працы Т. Позняка знайшлося месца не толькі для пісьменнікаў Беласточчыны, але нават сказана колькі слоў пра літаратуру нашае эміграцыі. Карацей кажучы, па задуме гэта вельмі цікавае і карыснае выданне. Тут нам варта было б нават павучыцца ў нашых заходніх братоў. Бо ў беларусаў, здаецца, да гэтага часу няма кнігі на роднай мове, з якой яны маглі б даведацца пра літаратуру бліжэйшых суседзяў сваіх і народаў Еўропы.

Пра беларусаў, нацыю досыць вялікую па еўрапейскіх мерках, гавораць сёння ў вялікім свеце і многа, і мала. Ды кожнае слова, прамоўленае ў абарону і падтрымку нашае самабытнасці, успрымаецца на Беларусі на вагу золата. Не дзіва, што кожны беларус, пачынаючы гартаць старонкі «Нарысаў» Т. Позняка, спадзяецца на многае... Абнадзейвае год выдання — 1989: дэмакратычныя зрухі нават на Бацькаўшчыне былі ўжо значныя, не кажучы пра Польшчу, дзе ніколі не было падобнага, як у нас, уціску цэнзуры, рознага роду ідэалагічных табу. І ўсё ж спасцігне чытача вялікае расчараванне...

Найперш здзіўленне выклікае той факт, што, відавочна, гэтая праца не рэцэнзавалася ні ў адной навуковай установе Беларусі. Пацвярджаюць гэтую здагадку недарэчныя і прыкрыя памылкі, якія заўважыў бы не толькі навуковец, але і сярэдні студэнт беларускае філалогіі. Да прыкладу, што Кулакоўскага завуць Аляксеем, а не Алесем, што Тураў і Тураўля — розныя населеныя пункты, што Францішак Скарына быў далёка не першым «прадстаўніком усходнеславянскай культуры з універсітэцкаю адукацыяй» (гл. кнігу С. Александровіча «Тут зямля такая» (1969), а Францішак Савіч нарадзіўся ў 1815 годзе, а не ў 1813. Няправільна пададзена дата нараджэння Ігната Буйніцкага (1821 замест 1861), а таксама даты смерці Б. Тарашкевіча (1941) і Н. Арсеньевай (1978), якая да гэтага часу, дзякаваць Богу, жыве. Аднак у параўнанні з іншым, гэта сапраўды толькі прыкрыя дробязі.

Варта адзначыць, што досыць часта, асабліва калі гаворка ідзе пра сучасную літаратуру, аўтару бракуе элементарнага дасведчання. Вось ён піша: «Творы вытворчай альбо калгаснай тэматыкі ў традыцыйным разуменні ўсё яшчэ ствараюцца і ў пасляваенны перыяд. Працягваюць гэтую плынь, да прыкладу, такія маладзейшыя празаікі, як Павел Місько (н. 1931), Леанід Гаўрылкін (н. 1935), Анатоль Кудравец (н. 1936) і Мікола Капыловіч (н. 1937). Гарадскую тэматыку жыцця сучаснай інтэлігенцыі, — працягвае Т. Позняк, — адлюстроўваюць у сваіх творах Яўген Васілёнак (н. 1917), Алесь Савіцкі (н. 1925), Лідзія Арабей (н. 1925), Валянцін Мыслівец (н. 1937)». (Тут і далей пераклад з польскай мой. — **Г. Т.**). Застаецца толькі гадаць, якімі крыніцамі і з якіх гадоў карыстаўся паважаны літаратуразнаўца, ствараючы свае нарысы.

Падрабязна пералічваюцца творы, напісаныя І. Навуменкам, Б. Сачанкам, нават пасобныя вершы А. Александровіча. Затое, характарызуючы лірыку П. Панчанкі, Т. Позняк ставіць кропку на зборніку «Пры святле маланак» (1966), а ў творчасці А. Куляшова — на паэме «Далёка да акіяну» (1971). З твораў В. Карамазава згадваецца толькі раман «Пушча», пра В. Адамчыка сказана, што ў «Чужой бацькаўшчыне» ён «адлюстраваў польска-беларускае памежжа», а І. Чыгрынаў — аўтар «вытворча-калгаснага рамана «Плач перапёлкі».

Альбо згадаем, да прыкладу, як характарызуе Т. Позняк, па ягонаму выслоўю, «наймалодшую генерацыю паэзіі». Ён згадвае, апрача заўчасна памерлых Анатоля Сербантовіча, Уладзіміра Ліцына, Рыгора Семашкевіча, «такія прозвішчы, як Гертруда Маркава (1942), Вера Вярба (1942), Марыя Шаўчонак (1944), Вольга Іпатава (1945), Яўгенія Янішчыц (1948), Генадзь Пашкоў (1948), Людміла Забалоцкая (1950)». Успомніць то яно *можна, толькі пры ўмове, што* не будуць забытыя імёны такіх паэтаў, як Разанаў, Някляеў, Баравікова, Бондар, Каржанеўская, Законнікаў, а ў прозе — імёны А. Жука, Г. Далідовіча, В. Гігевіча, драматурга А. Дударава. На такія ж «дробязныя» акалічнасці, што згаданыя Т. Позняком аўтары — далёка не наймалодшая генерацыя, а Гертруда Маркава ды Вера Вярба — адна і тая ж асоба, ужо і зважаць не хочацца. Ды што там гаварыць пра маладзейшых ды самых маладых, калі ў пераказе Т. Позняка беларуская літаратура пазбаўлена імёнаў В. Зуёнка, К. Цвіркі, Л. Геніюш...

Адсутнасць мастацкіх крытэрыяў назіраецца і ў адлюстраванні літаратурнага жыцця Беласточчыны. Тут аўтар — відаць, каб не было лішніх крыўд — пералічвае, бадай, усіх, хто калі-небудзь браўся за пяро — ад слынных Сакрата Яновіча ды Алеся Барскага да мала каму вядомых Ірыны Баравік і Уладзіслава Дваракоўскага. Адвольнасць заўважаецца і ў падыходзе да эміграцкае літаратуры: тут пералічваюцца падрабязна імёны другасных аўтараў і замоўчваюцца больш таленавітыя і значныя. Да прыкладу, імя Масея Сяднёва, творчасць якога сёння стала амаль хрэстаматыйнай.

Можна запярэчыць (і будзе ў тым пэўная рацыя), што тут, на радзіме, ані беластоцкая, ані эміграцкая літаратура не аналізаваліся ўвогуле, і, апрача парушынкі ў чужым воку, трэба бачыць і бервяно ў сваім уласным. Відаць, ёсць-такі Божая кара за доўгія гады згодніцтва і канфармізму. Пакуль яшчэ напішацца новая гісторыя беларускай літаратуры, некалькі пакаленняў і саміх беларусаў і сусветных чытачоў будуць вучыцца па старых сталінскіх і неасталінскіх кніжках з вырванымі старонкамі, а то і цэлымі раздзеламі. Бліжэйшыя суседзі пра гэта будуць ведаць, далёкія ж могуць і не здагадацца... Суседзі ёсць суседзі. І ці павінны мы мець да іх прэтэнзіі, калі яны, шануючы сваю выгаду, не аднаўляюць адрынутае намі ж?! Альбо дзеля сваёй карысці ўмела выкарыстоўваюць «ідэалягічна вывераныя», але неадпаведныя гістарычнай праўдзе марксісцка-ленінскія канцэпцыі?

«Алесь Рыбка — гэта беларускі адпаведнік рускаму салдату Івану (Васілю. — **Г. Т.**) Цёркіну, герою вядомай паэмы Аляксандра Твардоўскага».

«Папулярным жанрам стала вайсковая балада, у аснове якой спалучэнне лірыкі і публіцыстыкі, — з'ява аналагічная рускім баладам Ціханава».

«Паэма Чарота «Босыя на вогнішчы» мела такое ж значэнне для беларускай літаратуры, як для рускай — паэма «Дванаццаць» А. Блока».

«Лынькоў піша апавяданне «Баян», беручы прыклад з М. Астроўскага і А. Макаранкі».

«Роля Максіма Танка ў беларускай літаратуры падобная да той, якую ў рускай паэзіі адыгрывалі А. Блок і Ул. Маякоўскі».

Барыс Сачанка — прадаўжальнік прозы тыпу І. Буніна, К. Крапіва — беларускі Крылоў, на творчасць Д. Бічэль-Загнетавай паўплывала паэзія Ахматавай ды Цвятаевай...

Як вы думаеце, шаноўныя чытачы, адкуль Т. Позняк запазычыў гэтыя клішэ? Не, вы не памыляецеся, безумоўна, з нашых так званых беларускіх **савецкіх** падручнікаў па гісторыі літаратуры. Тае бяды, што нават школьнікі відаць надуманасць падобных паралеляў! Ці што падобныя сінанімічныя рады можна збудаваць нават у дачыненнях беларускае літаратуры, скажам, з гвінейскай, не кажучы ўжо пра польскую... Да прыкладу: падобна, як Ч. Мілаша, Алеся Разанава цікавяць філасофскія праблемы быцця, Г. Марчук у сваёй творчасці працягвае традыцыі Марэка Гласко, на творчасць Р. Баравіковай паўплывала паэзія М. Паўлікоўскай-Яснажэўскай і г. д.

За відавочнай абсурднасцю гэтых і падобных параўнанняў хаваецца адзін зусім не дробязны разлік — замацаванне ў падсвядомасці чытача другаснасці, неарыгінальнасці беларускіх аўтараў і твораў, якія параўноўваюцца.

«Mala herba cita crescit» — пустазелле хутка расце, вучылі нас калісьці такому лацінскаму выслоўю. Яно і праўда! Няхай сабе сёння лоб разбіваюць беларускія гісторыкі ды літаратары, распавядаючы пра вытокі і ўзнікненне беларускай народнасці, пра яе пісьменнасць, гісторыю, культуру, а па вялікім свеце будуць разносіцца, памножаныя яшчэ і Т. Позняком, крылатыя выслоўі Абэцэдарскага і К°, накшталт: «Культура беларускага народу вырастае з агульнага кораня стараўскай культуры, сфармаванай у X — XI стагоддзях у межах дзяржаўнасці Кіеўскай Русі». «Як вядома, значную частку беларускіх зямель заваявалі альбо далучылі літоўскія князі Мендоўг і Вітаўт, а справу дакончылі Гедэмін і ягоныя нашчадкі», «У XIX стагоддзі ў беларусаў пачынае выяўляцца і пашырацца пачуццё нацыянальнае самасвядомасці, *падобна*, як і ў іншых еўрапейскіх народаў, якія не мелі дагэтуль сваёй дзяржаўнасці» і г. д.

Трагедыя нашага народа, а, можа, і ягоны паратунак у тым, што мы апынуліся на раздарожжы паміж Усходам і Захадам. (У прыватнасці, так лічыў І. Абдзіраловіч.) «Усход гвалціў нас у імя шырокіх заданняў: у імя зліцця ўсіх славянаў, у імя аб'яднання пралетарыяту ўсяго свету.., — пісаў выдатны філосаф. — А Захад не такі, Захад такой абмылкі не зробіць: ён ведае няздольнасць, немагчымасць рэалізацыі такіх ідэй. Але практычна адносіны Усходу і Захаду розняцца толькі ў драбніцах: не па сутнасці, а толькі па колькасці, велічыні. Усход адразу захоплівае шмат, Захад па сваёй далікатнасці — менней». Ці ж не праўда, словы гэтыя, пісаныя на пачатку стагоддзя, застаюцца надзіва актуальнымі і сёння?

Знаёмая аднаго разу распавядала пра свой побыт у Польшчы. Калі ў гасцях гаворка зайшла пра Беларусь, БНФ «Адраджэнне», пра мітынгі і забастоўкі, гаспадыня, немаладога ўжо веку полька, наіўна спытала «Чаго ж хочуць беларусы, за што яны змагаюцца? Стаць палякамі?». Не, гэта была не выпадковая агаворка! Засмечанай на працягу дзесяцігоддзяў афіцыйнай і неафіцыйнай прапагандай «Polski od morza do morza» нацыянальнай самасвядомасці сярэдняга паляка цяжка прызвычаіцца да думкі, што паміж Масквой і Варшавай жыве самабытны народ, які не атаясамлівае сябе ані з палякамі, ані з рускімі. Гіпертрафіраваную прагу *палякаў* шукаць «польскасць» нават там, дзе яе ніколі не было, дасціпна высмейваюць часам і яны самі. Палякі здольныя адшукаць свае сляды нават у пірамідзе Хеопса, жартаваў са сваіх землякоў колішні папулярны журналіст, а пазней адказны за сувязі з прэсай ва ўрадзе Ярузельскага Ежы Урбан. Зрэшты, у *палякаў* ён асаблівым аўтарытэтам не карыстаўся. Мажліва, і з прычыны падобных выказванняў.

І хоць нашыя заходнія суседзі не надта любяць нашых усходніх братоў, але ж многае іх яднае. І тыя і другія ўяўляюць сябе народам-месіяй, і тыя і другія хочуць быць першымі-лепшымі, асабліва ў дачыненні да нас, беларусаў. Менавіта ў Расіі пашыраны такія фразеалагізмы, як рускае поле, руская зіма, (якую, дарэчы, святкуюць нават у нас на Беларусі), руская бяроза і г. д., а ў Польшчы — польская яешня, польская гарэлка, польскі гонар... Зрэшты, гэта не такая і благая рыса — надаваць свой нацыянальны каларыт навакольнаму асяроддзю. Праўда, толькі тады, калі гаворка ідзе пра зіму ці пра яешню. Але калі з гастраноміі пачынаюць пераходзіць у сферу культуры... тут ужо іншая справа.

Па згаданых прыкладах і цытатах добра відаць, што ў сваіх «Нарысах па гісторыі беларускай літаратуры» Т. Позняк плённа скарыста[illegible] здабыткі Усходняга вучона[illegible], але ж не мог забыцца ён і на «працы» Заходняга. У падыходзе да беларускай літаратуры XIX стагоддзя ёсць адна характэрная асаблівасць не толькі ў аўтара згаданых «Нарысаў», але і ў большасці польскіх даследчыкаў. Выяўляецца яна ў тым, што беларускім пісьменнікам можа быць толькі асоба... сялянскага паходжання. Шляхціц, асабліва з еўрапейскаю адукацыяй — гэта ўжо паляк, які ад няма чаго рабіць гуляе ў беларускасць. Тут зноў *можна заўважыць, як* вульгарна-сацыялагічны падыход, прынесены ў літаратуру кастрычніцкім пераваротам, а да нас на Беларусь — на штык усходняга брата, надзіва па душы прыйшоўся і нашым заходнім братам. На першы погляд, няма нічога дрэннага ў наступным сказе «Нарысаў»: «Першым айчынным беларускім паэтам быў Паўлюк Багрым». Праўда, калі забыцца, што перад тым Т. Позняк згадвае Ф. Савіча, аўтара верша «Там блізко Пінска». Вынікае, што сын уніяцкага святара з-пад Пінска Ф. Савіч — *паляк*. Аднак не толькі беларускі верш, веравызнанне і месца нараджэння, але і пісаныя беларускаю мовай лісты цалкам разбураюць версію пра ягоную польскасць. Што ж да Яна Чачота, дык тут ужо аўтар прама называе яго палякам. Але ж на якой падставе, дазвольце спытаць? Сваю свядомую беларускасць Чачот засведчыў нават пісьмова. І гэты дакумент, дзякуючы працы К. Цвіркі, стаў даступным сёння не толькі спецыялістам, але і масаваму чытачу. Пазіцыю Т. Позняка ў гэтым пытанні можна ахарактарызаваць выслоўем, якое бытуе на Беларусі, але, здаецца, сустракаецца і ў Польшчы: «У кожнай Тарэсы свае інтарэсы». Заўважаецца гэты «інтарэс» і ў гаворцы пра літаратуру XX стагоддзя.

Хібы, якія сустракаюцца тут, канешне, пры жаданні можна спісаць, і на нашае афіцыйнае літаратуразнаўства. Бо няма тут імёнаў такіх выдатных дзеячаў нашага мінулага, як В. Ластоўскі, І. і А. Луцкевічы, В. Іваноўскі і інш. Амаль абмінута ў працы Т. Позняка і творчасць другога нашага класіка — Максіма Гарэцкага, затое яўна перабольшана роля і значэнне Зм. Бядулі.

А вось як характарызуецца ў творчасці нашых пісьменнікаў перыяд 20-ых гадоў, час вялікага нацыянальнага расчаравання, калі разбіліся надзеі на незалежную Беларускую Народную Рэспубліку і трэба было неяк мірыцца, зжывацца і рабіць дзеля карысці свайго краю ўсё магчымае. «Пра выйсце з ідэйнага крызісу (Янкі Купалы. — **Г. Т.**) сведчыць пераклад на беларускую мову« Інтэрнацыяналу» (1921), вершы «На смерць Сцяпана Булата» (1921), «Арлянятам» (1924)». «Якуб Колас, перадолеўшы падобны ідэйны крызіс, распачаў актыўную дзейнасць на ніве эпічнай і лірычнай паэзіі», «Да паэзіі, з якой дэбютаваў у свой час, пераадолеўшы ідэйны і эстэтычны крызіс, — вярнуўся Цётка Бядуля»... І гэта ўсё на адной старонцы... Сапраўды, не ведаеш, плакаць тут ці смяяцца!

У «Нарысах» няма ніякіх каментарыяў не толькі да смерці Ц. Гартнага, але і да смерцяў іншых шматлікіх ахвяр сталінскага тэрору, як няма і ніякага ўспаміну пра А. Мрыя, Л. Калюгу, У. Хадыку... Усё роўна, як і не было іх... Пра рэпрэсіі, праўда, у адным месцы згадка ёсць, хоць і ў дужа іншасказальнай форме: «Пасля драматычных акалічнасцяў папярэдняга перыяду вярнуліся да паэтычнай працы творцы найстарэйшай генерацыі Дубоўка і Александровіч». Дапусцім, сучасны беларускі чытач (і то, будзем шчырымі, далёка не кожны) ведае, як памёр у сталінскіх засценках НКВД Ц. Гартны, ведае пра «драматычныя акалічнасці» Дубоўкі, Гарэцкага, Грахоўскага, Шушкевіча, Пальчэўскага і іншых. Але адкуль пра гэта ведаць польскамоўнаму чытачу? Чаму ў часы, калі пра ўсё гэта можна сказаць адкрыта, сустракаюцца ў познякоўскім тэксце такія туманныя расплывістыя намёкі?

Безумоўна, праца рэцэнзента — дужа няўдзячная праца. Здараецца часам, што рэцэнзент сапраўды заслугоўвае тых слоў, якія сказаў калісьці М. Горкі і якія прывёў Янка Брыль, адказваючы на крытыку сваёй аповесці «На Быстранцы»: «Рэцэнзент — гэта малады чалавек, які павучае другога маладога чалавека, хоць сам за яго дурнейшы і менш таленавіты». І ўсё ж... Памятаючы аб тым, што «беларуская літаратура робіцца ўсё больш вядомай і даследуемай у свеце, а таксама, што тлумачыцца гістарычна і эмацыянальна — у Польшчы», як напісаў у сваёй працы Т. Позняк, і пісалася гэтая рэцэнзія. Суседзі заўсёды будуць цікавіцца нашай культурай, і як кажуць, дай Бог! Але, можа быць, з часам яны перастануць ігнараваць вопыт, даследаванні і думкі саміх гаспадароў — беларусаў.

**Галіна ТЫЧКА.**

**ВІНШУЕМ!**

# Беларускі лёс галічанкі

З лёгкай рукі незабыўнага Андрэя Малышкі сцвердзіўся і пашырыўся па-за межамі Украіны выраз «поўдзень веку». Можа, упершыню прагучаў ён якраз пад час святкавання 50-годдзя самога Андрэя Самійлавіча. Гэта было, калі не памыляюся, у актавай зале Львоўскага універсітэта. Мы былі там хмарамі — студэнты-філолагі, старшакурснікі і нядаўнія шкаляры... Маладыя рамантыкі хрушчоўскай адлігі (а сярод іх — і Таня Кабржыцкая) тады жылі Драчом, Дзюбам, Межалайцісам, але ж шанавалі і Рыльскага, Гончара, Малышку, Брыля — літаратура ў «жывых класіках» была нам такою ж дарагою, як і творчасць Шаўчэнкі, Франка, Лесі Украінкі, Карэла Гінека Махі, Юліуша Славацкага, Максіма Багдановіча.

У такой — вельмі далёкай ад афіцыёзнага «патрыятызму і інтэрнацыяналізму» — атмасферы выхоўваліся мы, пашыраючы свае творча-навуковыя зацікаўленні, вучачыся паважаць каштоўнасці ўласныя і суседскія. Мы «прывязваліся» да любімых літаратур: багеміст Маторны далучаў да культуры Чэхіі і Славакіі, сарабіст Трафімовіч адкрываў Украіне лужыцкіх сербаў, балгарыст Малярчук набліжаў да нас далягляды бацькаўшчыны Боцева... А глыбока шанаваны студэнтамі палашчук Іван Дзянісюк прывіваў любоў да беларускага слова, Беларусі.

Першыя пераклады, першыя рэфераты, першыя ўкраінска-беларускія вечарыны, у якіх бралі ўдзел львоўскія студэнты Іван Ляўчук, Сяргей Панізнік і Валянціна Коўтун. Усе трое — шчырыя беларусы, а Таня Кабржыцкая, дачка выдатнага львоўскага інтэлігента, опернага спевака, — дапоўніла гэтую знакамітую трыяду, бо прынялася Беларуссю ці не больш як хто з нас. Можна сказаць — выбаражыла сабе беларускую долю. Называйце гэта як хочаце — збегам абставін, размяшчэннем зорак,



падзвіжніцтвам ці апантанасцю, а я сцвярджаю: лёс. Гэта яго перст пазначыў далейшы жыццёвы шлях, творчую і навуковую біяграфію таленавітай львавянкі. Блаславёны знак лёсу бачу і ў тым, што Таццяна стала жонкаю Вячаслава Рагойшы.

Дай нам, Божа, чым болей такіх моцных і гарманічных шлюбаў, дзе сямейны пачатак жывіцца роднаснымі культурамі і дапамагае гэтым культурам — на поўную моц, самаадданна і паслядоўна.

У гэтых кароткіх нататках я не хацеў бы перагружаць увагу чытача пералікам таго, што датычыць навуковага і творчага даробку Таццяны Кабржыцкай — ён значны і вельмі змястоўны: манаграфіі, даследаванні, пераклады, артыкулы, рэцэнзіі... У яе «актыве» — Быкаў па-ўкраінску, яе неацэнная заслуга — пераклады прац Багдановіча пра Віннічэнку і Чупрынку. (Зроблена тады, калі на Украіне да гэтых імёнаў толькі-толькі набліжаліся нашы вучоныя). А ясная зорка нашага братэрства — Палуян? А шматлікія ініцыятывы ўшанавання Дуніна-Марцінкевіча?

Словам, беларуская доля нашай галічанкі, на маю думку, мае не толькі пабытовы і грамадскі арэол, але, калі хочаце, — і гістарычны. Можа, Лёс за ўсё тое добрае, што зрабіла Галічына для Цёткі, вырашыў аддзячыць Украіне такім арыгінальным чынам? Можа, тое, што стварыла Таццяна Кабржыцкая да свайго поўдня веку (даруйце, такі прагаварыўся!), праз пяць дзесяцігоддзяў будзе мець іншыя, непрадказальныя вымярэнні?

Я віншую Таццяну Кабржыцкую ў дзень нараджэння, зычу ёй, як кажуць у нас, — з расы і з вады! Ясныя воды і чыстыя росы ачысцяць нашу агульную долю ад чарнобыльскага ліха. Матчына любоў, любоў Украіны і Беларусі, няхай благаславяць Цябе, сям'ю Тваю, дзяцей і ўнукаў Тваіх, Таццяна, беларуская галічанка!

**Раман ЛУБКІЎСКІ,**
**народны дэпутат Украіны,**
**старшыня Рады Львоўскай арганізацыі Саюза пісьменнікаў Украіны.**

**ПОШУКІ, ЗНАХОДКІ**

# Вузельчыкі на памяць Мацею Бурачку

**Рыхтуючы да выдання новы аднатомнік творчай спадчыны Францішка Багушэвіча, а фактычна Поўны збор твораў Мацея Бурачка, толькі ў адной кнізе, я разважаў над прадмовай. Матэрыялу збіралася багата, а вось уступ, першае слова-вобраз ніяк не прыходзіла. З чаго пачаць, што ўзяць за адлік, распачынаючы гаворку пра Багушэвіча! Дзе выток яго паэзіі, якое пачуццё распаліла ў Францішкавай душы прагу «скруціць дудку» і зайграць так, каб пачулі «ад краю да краю»!**

Пасля разважанняў над эпохай сярэдзіны і канца XIX стагоддзя цвёрда вымеркаваў: пачаць з 1863 года. Даты, якая ярка ўскалыхнула стагоддзе, таму і засталася астральнаю зоркаю на шляху станаўлення беларускай нацыі. Там, у паэтавай маладосці належыць шукаць пачатковы напеў Багушэвічавай музы.

Неўзабаве ж, перачытваючы лісты Элізы Ажэшкі, міжволі здзівіўся, наколькі трапна акрэсліла аўтарка «Хама» і «Дзюрдзяў» ролю паўстання ў станаўленні яе, як пісьменніцы. Паводле яе слоў, 1863 год «запаліў [...] жаданне служыць Радзіме па меры сіл і характару маіх здольнасцей; з яго агню і слёз узнікла ўва мне жаданне прынесці хоць маленькую цаглінку для таго выратавальнага моста над безданню, праз які павінен быў прайсці народ [...] Потым прыходзілі доўгай чарадою творчыя задумы, але не было сярод іх ні адной, якая, як з першакрыніцы, не брала б свайго пачатку з думак аб Радзіме. Усё гэта зрабіў са мной і ўва мне 1863 год. Калі б не яго молат і разец, мой лёс быў бы іншы і, відаць, я не стала б пісьменніцай».

Мала памыліцца той, хто стане сцвярджаць: пад аналагічным прызнаннем паставіў бы свой подпіс і Мацей Бурачок. Больш пэўней можна выказацца пра характар сяброўскіх размоў Багушэвіча з Ажэшкай пад час не такіх ужо і рэдкіх спатканняў. Віленскі адвакат імкнуўся не прамінуць аніводнай аказіі, каб наведаць славутую гаспадыню драўлянай, зусім вясковай хаціны на адной з ціхіх зялёных вуліц Гародні. Несумненна, гаворка між імі не раз заходзіла пра тыя дні, поўныя трагізму, надзей і расчараванняў. Нездарма ж у чатырох вядомых лістах Багушэвіча да Ажэшкі захаваліся два вершыкі, у якіх чуваць водгулле векапомных падзей. («Шумяць сосны», «Я стары, таму й не знаю...»).

Крылатае выказванне Э. Ажэшкі пра 1863 год, прыведзенае ёю ў лісце да Мар'яна Дубецкага (1907), біёграфа апошняга паўстанцкага дыктатара Рамуальда Траўгута, стала шырока вядомым раней, чым трапіла ў другі том «Listów zebranych» пісьменніцы, выдадзенага яшчэ да вайны (Варшава—Гародня, 1937). Аналагічна раней, перш чым стаў вядомым у Беларусі змест саміх Багушэвічавых пісем да Э. Ажэшкі (урыўкі з іх упершыню друкаваліся на старонках беластоцкага штотыднёвіка «Ніва» 1 студзеня 1961 г. у артыкуле Эдмунда Янкоўскага «Эліза Ажэшка і Францішак Багушэвіч»), нашы літаратуразнаўцы са старонак таго самага выдання эпістальярнай спадчыны пісьменніцы маглі пазнаёміцца з Ажэшкавай ацэнкай беларускай паэзіі Ф. Багушэвіча.

«Тры тыдні таму, — пісала яна ў лісце да Яна Карловіча 2 лістапада 1887 г., — быў у мяне добры Ваш знаёмы з Вільні спадар Багушэвіч. Вельмі прыемна бавіла з ім колькі гадзін. Ён чытаў мне свае беларускія творы і нават даў мне іх копію з асобным вершам, які напісаны па-беларуску. Ці ж няпраўда, што гэта цудоўныя рэчы, яны маюць нейкае асаблівае хараство, і я вельмі зацікавілася, ці зразумеюць іх таксама нашыя хлопы і ці змогуць яны іх упадабаць. На будучае лета паспрабую чытаць іх маім міневіцкім знаёмым» (Ажэшка Э. Збор лістоў. Вроцлаў, 1956, т. III, с. 82).

У іншым пісьме да Я. Карловіча польская пісьменніца зноў падзялілася ўражаннем ад чарговай сустрэчы з беларускім песняром: «Быў у мяне нядаўна сп. Багушэвіч і чытаў мне сваю, толькі што напісаную па-беларуску казку, доўгую, поўную фантазіі, цудоўную. Прыгожы гэта талент. Польскія вершы яго слабыя, але беларускія, на маю думку, выдатныя. Трэба з усёй сілы заахвочваць яго да працы ў гэтым кірунку».

Вось і ўсё з вядомага раней пра сувязі Ф. Багушэвіча з Э. Ажэшкай. Таму шчырым было маё здзіўленне, калі, ужо скончыўшы працу над перавыданнем Багушэвічавых «Твораў» (у каментарыях да іх змешчаны цытаваныя вышэй выказванні польскай пісьменніцы), натрапіў у пазнейшых тамах «Listów zebranych» на Ажэшкавы словы пра Францішка Багушэвіча, нашым даследчыкам невядомыя. У лісце да К. Панятоўскага 23 лістапада (5 снежня) 1893 г. яна пісала: «Учора гаварыла пра спадара з віленчуком, спадарам Багушэвічам, адвакатам, які наведаў мяне праездам з Варшавы. Пляткарыла пра Вас, колькі хацела, а цяпер яго перад спадарам лічу неабходным ахарактарызаваць. Бо гэта чалавек ну зусім незвычайнага сэрца, розуму і таленту. Таму мяркую, што Вы, панове, узаемна павінны сысціся між сабою, як падобны сходзіцца з падобным».

Сын валынскага шляхціца Адама Панятоўскага, удзельніка двух паўстанняў, лістападаўскага і студзеньскага, Казімір-Юзаф Панятоўскі падзяліў лёс дзяцей-нявольнікаў. Ягоная няпростая жыццёвая пуцявіна з дзесяцігадовага ўзросту, ад моманту арышту бацькі і да сталага веку вілася па абшарах імперыі, пакуль у 1893 г., не зважаючы на страту 2000 руб. гадавых, ён не асеў у Вільні на сціплай чыноўніцкай пасадзе. Акурат у старажытным месце Казімір і пазнаёміўся з нашым паэтам. Бо як было не паслухаць парады знакамітай пісьменніцы!

Вядомы знаўца творчасці Э. Ажэшкі, варшаўскі прафесар Эдмунд Янкоўскі, публікуючы ў 7-ым томе (1971 г.) лісты аўтаркі «Над Нёманам» да Панятоўскага, пракаменціраваў прыведзены вышэй урывак пра Багушэвіча вытрымкамі з двух лістоў К. Панятоўскага. Апошні адпісаў Ажэшцы 2 (14) снежня 1893 г.: «У сп. Б[агушэвіча] я быў колькі дзён таму. Магчыма, я памыляюся (дай Божа), але, здаецца мне, што ягонае здароўе не ў найлепшым стане. Я перакананы, што яго дом (калі гаспадар не будзе мяне надакучлівым) будзе належыць да самых мілых, якія вядомыя мне ў Вільні».

У наступным лісце 4(16) сакавіка 1894 г. Панятоўскі паведамляў: «Шаноўны сп. Б[агушэвіч] некалькі месяцаў вельмі моцна хварэў, цяпер пачуваецца лепей, марыць нават пра вандроўку летам конна [...] Аднак больш ён мае, як кажуць, загартаваны характар, чымся цела, і павінен, праўдападобна, свой праект відазмяніць».

Ішлі гады. Здароўе Багушэвіча так канчаткова і не направілася. Але сяброўства паэта з Казімірам Панятоўскім мацнела. І калі ў 1898 г. з нагоды 100-годдзя з дня нараджэння Адама Міцкевіча будзе створаны юбілейны віленскі камітэт для пабудовы помніка славутаму сыну нашай зямлі, яны абодва ўвойдуць у склад камітэта (Панятоўскаму даручаць абавязкі скарбніка). У тым самым 1898 г., вясною, Эліза Ажэшка напіша Казіміру Панятоўскаму трывожнае лісцянятка, якое, можна сцвярджаць смела, ці не цалкам прысвечана клопатам пра Багушэвіча.

«Шаноўны і дарагі Пане!

Мяркуючы, што спадар ужо вярнуўся з пінскай вандроўкі, перасылаю сардэчную падзяку за ліст, атрыманы перад святамі [...] Як здароўе шаноўнага спадара Багушэвіча? Колькі тыдняў таму сп. Нагродскі прыслаў мне аб ім злую вестку, якому я не магла адпісаць з-за браку адрасу. Але спадарыня Макоўская, будучы тут пад час святаў, казала, што наш каханы хворы пачуваецца трохі лепш».

На жаль, у мінскіх бібліятэках захоўваюцца далёка няпоўныя камплекты «Listów zebranych» Э. Ажэшкі (да прыкладу, Дзяржаўная бібліятэка імя У. І. Леніна мае ўсяго тт. 1—3, 7). Пад час нядаўніх урачыстасцяў з нагоды 150-годдзя з дня нараджэння Э. Ажэшкі я наведаў Гародню, спадзеючыся пагартаць там фаліянты эпістальярнай спадчыны пісьменніцы, якіх няма ў Мінску. Але і бібліятэка Доміка-музея на вуліцы Ажэшкі ўкамплектавана не цалкам.

Што ж, даводзіцца суцяшацца тым, што сустрэча з невядомымі беларускімі вузельчыкамі сяброўства Францішка Багушэвіча і Элізы Ажэшкі, завязанымі рукою апошняй, — наперадзе, і яны абавязкова калі-небудзь будуць развязаны.

**Язэп ЯНУШКЕВІЧ.**

Раіса БАРАВІКОВА



Некалькі гадоў працавала над драматычнай паэмай «Барбара Радзівіл», спрабуючы па-свойму перадаць даволі шырока вядомыя староннi нашай гісторыі за межамі Беларусі, скажам, у Літве ці ў Польшчы, і мала вядомыя ў нас. Падзеі, якія адлюстроўваюцца ў паэме, ахопліваюць 1547—1551 гг.

Прапаную чытачам «ЛіМа» пятую, заключную сцэну першай дзеі, калі дзякуючы інтрыгам, браты Барбары — Мікалай Руды і Мікалай Чорны Радзівілы дамагаюцца свайго: Барбара бярэ тайны шлюб з вялікім князем Вялікага княства Літоўскага Жыгімонтам Аўгустам.

Ад аўтара.

# Барбара Радзівіл

Спальня Барбары ў доме брата — Радзівіла Мікалая Рудога.
Яна нечым нагадвае спальню Жыгімонта Аўгуста.
Тыя ж ружовыя колеры, амаль той жа алькоў з карункавымі фіранкамі.
Вечар.
Багатае ўбранне спальні патанае ў паўзмроку.

Мікалай Руды запальвае свечкі ў цяжкіх падсвечніках.
Барбара з адсутным выглядам сядзіць у крэсле.
Мікалай Чорны праходжваецца з кутка ў куток...
У яго рухах адчуваецца нервовасць.

МІКАЛАЙ РУДЫ

**З дзяцінства не люблю сядзець у змроку,**
**у сэрцы цені нараджалі страх...**
**То чуўся нейкі шэпт, то раптам крокі,**
**то шамаценне лёгкіх апранах!**

МІКАЛАЙ ЧОРНЫ (спыняецца)

**Не для таго прыйшоў я, каб пачуць,**
**што чулася калісь табе ў дзяцінстве...**
**Барбару словам нельга ўжо крануць,**
**дык як жа думкі будуць у адзінстве!!**

БАРБАРА

**Ты, можа, хочаш, каб я разам з вамі**
**свой жар тушыла ўласнымі рукамі**
**пры дапамозе пашквілюсаў гнюсных!!**
**Цяпер маўчаць не будуць мае вусны!**
**Ты ўжо казаў, што я на шыі ў брата,**
**а зараз бачыш ты мяне брухатай!!**

Імкліва ўстае, вымае з невялікай прыгожай скрыначкі, што стаіць на століку, згорнуты аркуш паперы.
Такі ж самы знайшла пад падушкай у спальні Жыгімонта Аўгуста камедыянтка *Соф'я.*
(Працягвае гнеўна.)

**Вось пашквілюс! Упэўнена, што вы**
**абодва ў гэтым вінны нейкім чынам,**
**каб любы мне і ўжо не мой мужчына**
**згадаў, што мае на мяне правы.**
**Кахаў мяне і вось ён... плод кахання!**

(Нервова смяецца.)

**А ў нас, дарэчы, не было расстання...**

МІКАЛАЙ ЧОРНЫ (выходзіць з сябе)

**Каханне ваша — цьфу!**
**Нам трэба ўлада!**
**І плод кахання — добрая прынада.**

БАРБАРА

**Вар'яты!.. Божа! Праўда, вы — вар'яты!**
**Якой інтрыгай дзікаю заняты!**
**Паддаўшыся, сама я ўсё руйную,**
**і разам з тым гару ўся і раўную...**

Садзіцца ў крэсла. Плечы яе ўздрыгваюць
Барбара плача.

МІКАЛАЙ РУДЫ (ніяк не можа запаліць апошнюю свечку)

**Тут зараз Мікалай сказаў пра ўладу...**
**Чакаем міласці з чужых уладных рук,**
**хоць не скажу...**
**Ёсць права ў нас на Раду,**
**ды наша слова ў ёй староннi гук...**
**Мы на зямлі сваёй жывем сынамі,**
**і як сыны стаім мы за яе,**
**ды вершыць хтосьці зверху суд над намі,**
**улада — ўсё!**
**Яе нам не стае.**

МІКАЛАЙ ЧОРНЫ

**Наўкола — зайздрасць! А чаму зайздросціць!**

МІКАЛАЙ РУДЫ

**Заможнасць наша змучвае кагосьці.**

МІКАЛАЙ ЧОРНЫ

**Любыя скарбы без улады — тло!**

БАРБАРА (цяжка ўздыхае, усхліпвае)

**Так горка мне ніколі не было!**

МІКАЛАЙ ЧОРНЫ

**Мы пра Літву і пра сваю ў ёй пэўнасць,**
**яна ж — рыдае...**
**Душыць яе рэўнасць!**

БАРБАРА

**Адзінае, што сёння ў мяне ёсць, —**
**мае пачуцці...**
**Можна насміхацца,**
**ды ўзяць сваё жадае маладосць,**
**і як, скажыце, ад сябе схавацца?!**

МІКАЛАЙ ЧОРНЫ (зларадна)

**Ды нешта ж амарат твой не імчыць...**



# Цімка Залаты Зуб

Алесь Асіпенка

апавяданне

I

БОГ ведае, па якой асацыяцыі прыгадалася мне вёсачка Бублева, якая даўным-даўно знікла з твару зямлі, і Цімка Давыдзёнак па мянушцы Залаты Зуб.

Хоць чаго там прытварацца. Цяперашнія размовы пра прыватызацыю і далі накірунак згадкам. Былое, як ты яго ні выракайся, назойліва нагадвае пра сябе падобнымі падзеямі ды і лёсамі людзей таксама. Яно, праўда, двойчы ў адну раку не ступіш, але і тое праўда, што з якога берага ўвойдзеш у яе, на той і выйдзеш.

Ужо і не прыгадаю — старасць, *ліха на яе,* ды і склероз таксама,— хто і дзе сказаў (можа, Малафееў, а можа, Лігачоў ці нават сам Гарбачоў), што, *маўляў, мы зрабілі свой выбар* адназначна — сацыялістычны — і з абранага шляху ні пры якіх абставінах не саступім.

Тут, як кажуць, і гамонкі няма. Сацыялізм дык сацыялізм. Але ж ён, як я мяркую, усяго пераходны перыяд ад капіталізму да камунізму, а таму бясконца будаваць яго нельга, які б ён ні быў — развіты, з чалавечым тварам, сапраўдны, справядлівы або гуманны. Некалі ж людзей нарэшце трэба будзе ўвесці ў светлы будынак камунізму. Інакшай яны могуць зняверыцца і, як казаў некалі Сталін, паказаць на дзверы: ідзіце прэч, набудаваліся! А тады ўжо канчатковы крах і поўнае банкруцтва. Тут так: або дружна ідзём наперад, у камунізм, або не менш дружна вяртаемся назад, у капіталізм на сучасным этапе з усімі яго спакусамі.

Як я разумею, дык партыя, здаецца, не збіраецца мяняць шыльду, як гэта зрабілі яе паслядоўніцы ва Усходняй Еўропе. Яна застаецца камуністычнай і яе канчатковая мэта па-ранейшаму — камунізм.

Дык *навошта тады дурыць людзям галовы,* заклікаць іх браць зямлю, ствараць фермы — як па-нашаму дык хутары і маёнткі,— выкупляць крамы і кватэры, *малыя і вялікія прадпрыемствы?*

Во я і цікаўлюся: калі партыя не адмаўляецца ад камунізму, да якога павядзе праз сацыялістычны выбар, дык калі яна зноў кіне кліч: далоў прыватную ўласнасць, далоў фермераў і прадпрымальнікаў, возьмем замежныя канцэсіі і сумесныя прадпрыемствы ў свае пралетарскія рукі?! А што Маркс і Энгельс не прадугледзілі ў камунізме месца для прыватнай уласнасці, дык гэта і казе вядома.

У тым вось і справа!..

Зрэшты, мае развагі толькі штуршок да той асацыяцыі, паводле якой я прыгадаў і вёсачку Бублева і Цімку Давыдзёнка.

Дык спачатку пра вёску Бублева.

Была яна непаглядная, бедная, раскіданая па пагорках пры Чорным балоце, з якога выцякала рачулка з той жа назвай Чорная. Летам гэта быў непрыкметны ручаёк, *а вясной і ўвосень* — рака без берагоў, якая затапляла не толькі бублеўскія палеткі. Ці не таму землі ў Бублеве былі вельмі забалочаныя: куды ні кінь вокам, усюды гнілыя мачажыны, парослыя лазой імшары, вечна мокрыя ўпадзіны, сярод якіх сіратліва туліліся ўробленыя палеткі.

Хаты ў Бублеве стаялі на галу. Не было каля іх ні садоў, ні такоў, ні пунь. Сена на зіму клалі ў стагі, збажыну малацілі пад паветкай, якая звычайна месцілася між хатай і хлявом. Але, можа, самая лядашчая хата была ў Цімкі. Без сенцаў, нават без ганку, яна здавалася не жылой, даўно кінутай гаспадарамі.

Два яе акны перыліся ў панылую балацявіну, за якой чарнелі крыжамі могілкі. *Да хаты ляпіўся хлеў, за якім пад* узгоркам быў выкапаны калодзеж з нясмачнай тухлаватай вадой.

У той год, калі Цімка павінен быў дэмабілізавацца пасля ранення з Чырвонай Арміі, уся ягоная сям'я — бацька, маці, тры сястры — раптоўна памерлі ад страшнай тады хваробы гішпанкі. Цімка прыйшоў у пустую хату, на парослы дзірваном хутар, але не галяком. З Чырвонай Арміі ён прывёў кавалерыйскага каня і прытарочаныя да сядла дзве кайстры дабра. Валасны савет змушаны быў вярнуць Цімку карову і астатнюю жыўнасць, забраную пасля смерці бацькоў як безгаспадарную, ды яшчэ выплаціць кампенсацыю за ўчыненыя страты.

Адным словам, у Цімкі было за што зачапіць рукі. Але ў яго на прыкмеце меліся зусім іншыя задумы.

З Чырвонай Арміі Цімка вярнуўся свядомым актывістам, памагатым і правадніком партыйных рашэнняў. Ажыццяўляць іх стала для Цімкі справай гонару і святым абавязкам. Таму Цімка не мог дазволіць сабе корпацца на прыватным хутары, як крот, а ўзяўся ладзіць камуну, каб, як ён казаў, з месца ў кар'ер даімчаць да светлай будучыні — камунізму.

Бублеўцам асабліва губляць не было чаго і яны, за выключэннем дзвюх гаспадарак, аб'ядналіся ў камуну імя таварыша Мархлеўскага. Хто такі гэты Мархлеўскі, ніхто з бублеўцаў — ды і сам Цімка — не ведаў, але з назвай, падказанай павятовым камітэтам партыі, пагадзіліся.

За тры месяцы камунары з дапамогай шэфаў — рабочых голкавага завода і льнопрадзільнай фабрыкі — перацягнулі ў Бублева панскі маёнтак з усімі пры ім надворнымі будынкамі, абсталявалі ў доме кухню і сталовую, камунарскую канцылярыю і нумары пад жытло для прадстаўнікоў улад і гасцей, што меліся прыязджаць на экскурсію. У хлявах і вазоўнях размясцілі абагуленых і бясплатна перададзеных камуне кароў, коней, свіней, авечак, а таксама сабак, якіх Цімка залічыў на камунарскую службу.

Сталовая запрацавала адразу. Людзям жа трэба было нешта есці, бо Цімка абагуліў і ўсе прадукты харчавання, а таксама кухонныя прылады і посуд да апошняй чаропкі. За гэта на Цімку ніхто не наракаў: людзям падабалася камунарскае жыццё — ніякіх табе *клопатаў, што варыць ды што на стол* падаваць. Усё гатовае.

Існавала толькі адна нязручнасць: тры разы на дзень трэба было валачыся ў сталовую разам з дзецьмі. Але затое бублеўцы ніколі не елі так багата і так смачна: таўчоную бульбу з тлушчам, праснакі з алеем, зацірку са скваркамі, боршч, запраўлены смятанай, бульбяны суп з сушанай рыбай, груцу з малаком. Зрэшты, не толькі гэтым падабалася бублеўцам камунарскае жыццё — за ўсе свае працоўныя гады яны ўпершыню, уволю наеўшыся, адпачывалі, як у самыя святыя дні. Увечары ў сталоўцы, ператворанай у клуб, штодня ладзіліся вечарынкі пад гармонік, ставіліся спектаклі, чыталіся лекцыі, перасоўка паказвала кіно. З навакольных вёсак прыходзіла безліч моладзі, дзяцей ды і сталых людзей таксама. Цімка хваліўся, што гады за два ўся ваколіца пярэйдзе ў ягоную камуну, пабачыўшы перавагі яе над аднаасобным жыццём.

Жыць добра і весела камунарам было за кім. Усе павятовыя арганізацыі і прадпрыемствы пеставалі камуну імя таварыша Мархлеўскага як маглі, як умелі: нязведанымі шляхамі даставалі для яе росквіту тэхніку, пародзістую жывёлу, вясной слалі сваіх работнікаў сеяць збожжавыя і садзіць бульбу, *улетку вялі праполку,* касілі сена, жалі жыта, увосень выбіралі бульбу, малацілі, узнімалі зябліва, сеялі азіміну.

Адным словам, усё ішло як і належыць, як часам *водзіцца ў нас і цяпер.* Адны камуну імя таварыша Мархлеўскага ўсхвалялі, заклікалі браць з яе прыклад; другія ставіліся да яе варожа, сцвярджаючы, што камуна разбэшчвае мужыка; трэція хіхікалі ды вышчаралі зубы; чацвёртыя моўчкі *назіралі* ды ўпотайкі чакалі, калі прыйдзе канец бублеўскаму бардаку, як яны па сваёй несвядомасці і злосці называлі камуну.

Так і мінула два гады. А на трэці г паўзлі па камуне чуткі — водгулле нейкіх падзей, што адбыліся яшчэ на праддвесні ў Маскве. Казалі пра нейкую новую палітыку, што надумала весці партыя. Бублеўцы занепакоіліся. Але нічога пакуль не здарылася. Увосень шэфы выбралі бульбу, пасеялі азіміну. У клуб *па-ранейшаму прыязджала* перасоўная кінаўстаноўка, давала бясплатныя кінасеансы. Горкую нечаканасць прынесла наступная вясна: сталыя шэфы *адмовіліся прысылаць рабочых* дапамагчы ў палявых работах. І хоць Цімка са скуры вылузваўся, даказваючы гараджанам, што сельская гаспадарка аснова *асноў краіны, а камуна без* дапамогі гараджан загіне, яго чамусьці ніхто не хацеў слухаць.

Павятовыя арганізацыі таксама не спяшаліся прывозіць насенне і бульбу, хоць па плану абавязаны былі зрабіць гэта яшчэ да дня Парыжскай камуны і Мопра.

Цімка пабег у валвыканком. Валасны старшыня толькі развёў рукамі, а сакратар параіў звярнуцца ў павятовы выканком. Але і там Цімка пабачыў агульную разгубленасць і мітуслівую беганіну.

«Схаджу я ў павятовы камітэт партыі,— падумаў Цімка.— Там усё ж цвёрдакаменныя партыйцы і яны, напэўна, ведаюць агульны накірунак партыйнай думкі».

Каля павятовага камітэта партыі духавы аркестр іграў жалобны марш на словы «Вы жертвою пали», стаяла чалавек пяць разявак, а з будынка шэсць чалавек у аднолькавых фрэнчах і галіфэ, як у таварыша Троцкага, выносілі чырвоную труну.

— Каго хаваюць? — спытаўся Цімка знаёмага загадчыка сектара ўліку і адзінага партбілета.

— Таварыша Кузьму,— адказаў той.

— І што здарылася?..

Загадчык сектара аж скрывіўся ад нетактоўнага пытання і тарапліва адышоўся.

**Акцёрка ў замку чутка ёсць начуе.**
(Да Мікалая Рудога.)
**Пайшлі адсюль!**
**Пра што з ёй гаварыць!!**
**Яна даўно разумных слоў не чуе.**

Радзівілы выходзяць.
Барбара ўстае з крэсла.

БАРБАРА (зніякавела, шэптам)

**Акцёрка!.. Скуль!..**
**Па Вільні ходзіць чутка!**
**Другі ўжо тыдзень, як яго не бачу.**
**Душа гарыць і сэрца б'ецца пудка,**
**а радасць саступіла месца плачу...**

Паўза.

**Шлюб ладзіцца... Паверыла братам!**

Падыходзіць да акна.
Паўза.

**Як хутка ноч!**
**Міргае цьмяна зорка.**
**Сон — у мурах... і толькі недзе там,**
**у замку... цешыць яго шал акцёрка.**
Чуецца асцярожны стук у акно.
Яшчэ адзін і яшчэ...

(Барбара ўздрыгвае.)

**Хто тут!**

Узіраецца ў цемру акна.
(Крычыць.)

**Пачуе стражнік ля варот...**

(І вельмі радасна, проста захлынаючыся радасцю.)

**Чакай!.. Адну хвіліну!.. Жыгімонт!**
Расчыняе акно.
Жыгімонт Аўгуст, як на крылах,
ускоквае ў спальню.
Прыпадае да рук Барбары.
Цалуе іх.

Жыгімонт АЎГУСТ (з жарам, словы блытаюцца)

**Ты!.. Ты!.. Мне даравала неба**
**яшчэ адно імгненне... Вось ён міг!**
**А без цябе, як высахлая глеба,**
**я гіну... Ды нарэшце мы — ўдваіх!**
**Дай вусны мне...**
Цалуе Барбару.
(Шэпча.)
**Хай голас твой вясёлы**
**развее дзён нікчэмных каламуць**
**і ля ўзгалоўя нашага анёлы**
**на лютнях хай іграюць і пяюць.**
**Ты побач...**
**Кожнай рыскаю і ўздыхам,**
**хутчэй мой жар сабою наталі...**

БАРБАРА (трапятліва)

**Жаданы... я з табою...**
(Прыслухоўваецца.)
**Але ціха...**
**Хтось за дзвярыма... там...**
Глядзіць на дзверы, пасля на акно.
**Ці птушаня ў галлі!**

Жыгімонт АЎГУСТ (не зважае на словы)

**Мая!.. Мая!..**

Абдымае Барбару. Утрапёна цалуе твар, шыю...

**Ніхто адняць не зможа...**

Дзверы з грукатам расчыняюцца.
Імкліва ўваходзяць Радзівілы.
У руках — мячы. На тварах — тая
няўтрымная рашучасць, калі чалавек
здольны на ўсё.
Барбара міжволі туліцца да Жыгімонта
Аўгуста.
Жыгімонт Аўгуст глядзіць з цікавасцю.

Мікалай ЧОРНЫ (ў вялікім узрушэнні)

**Што бачу я!!**
(Да Мікалая Рудога.)
**Ты, Мікалай, пазнаў**
**начнога госця!**

БАРБАРА (шэпча)

**Робіцца што, Божа!!**

Мікалай РУДЫ (да Барбары)

**Нядаўна Жыгімонт нам слова даў...**

Мікалай ЧОРНЫ (паспешліва, таксама да Барбары)

**Што ён ніколі, ні з якім намерам**
**у тваю спальню не адчыніць дзверы!**

Стукае мячом.
Як непрытомны круціць галавою,
маўляў,
пераступіў парог, не стрымаў слова!
Набліжаецца да Жыгімонта Аўгуста
Барбары.
Спыняецца.
Паўза.
Момант у нечым парадыйны.

Жыгімонт АЎГУСТ.

**Вы ашалелі... Без яе мне цяжка.**
Прыціскае Барбару да сябе.
**Я для яе — не госць, а абарона...**

Мікалай ЧОРНЫ (гнеўна)

**Магчыма, ды з вялікаю нацяжкай!**
**Ты зноў прыйшоў,**
**каб наш запляміць гонар!!**

Жыгімонт АЎГУСТ

**Дарэмна гэтак... Хопіць вам шумець!**
**Вы будзеце, дальбог, нямала мець...**

Мікалай Руды падыходзіць да брата
Абодва напружана слухаюць.

**Уладу, славу...**

Мікалай РУДЫ (змрочна)

**Гэта зноў падман!**

Жыгімонт АЎГУСТ (не зважаючы на яго)

**Наўкола шляхта будзе віцца роем...**
Мікалай Чорны адштурхоўвае брата.
Выступае наперад.

Мікалай ЧОРНЫ

**О Божа міласэрны, дай нам тое!**
(Крычыць.)
**Плябан!.. Хутчэй сюды, плябан!..**

Усе глядзяць на дзверы:
З'яўляецца плябан. Ён нясе вянцы,
якія трымаюць над галовамі маладых
у час вянчання.
Падаюць на падлогу мячы.
Мікалай Чорны падбягае да плябана,
забірае вянцы. Адзін аддае Мікалаю
Рудому.
Ідуць да Жыгімонта Аўгуста і Барбары.
Плябан пачынае рыхтавацца да шлюбнага абраду.
Мікалай Чорны ўзнімае вянец над галавой Жыгімонта Аўгуста.
Над галавой Барбары вянец трымае
Мікалай Руды.

Мікалай РУДЫ (да Жыгімонта Аўгуста)

**Калі Барбару лічыш сваёй любай,**
**дык любасць замацуй законным**
**шлюбам!**

Жыгімонт АЎГУСТ маўчыць.
Паўза.

Мікалай ЧОРНЫ (усхвалявана, таксама да Жыгімонта Аўгуста)

**Скажы, як разумець тваё маўчанне!!**
Жыгімонт Аўгуст маўчыць.
Паўза.

Мікалай РУДЫ (з радаснай упэўненасцю)

**Як згоду, несумненна, на вянчанне!**

Жыгімонт Аўгуст моцна сціскае
руку Барбары.
Ён згодны.

**Заслона.**

---

Хвілін праз дваццаць Цімка сядзеў ужо ў кабінеце загадчыка агітпропа Ісака Зусьмана, які чамусьці не пайшоў на могілкі, каб праводзіць таварыша Кузьму ў апошні шлях. Загадчык агітпропа найперш адмежаваўся ад таварыша Кузьмы, назваўшы ягонае самагубства актам разгубленасці і панікі.

— Партыя не раз стаяла перад цяжкімі выпрабаваннямі,— павучаў Цімку Зусьман.— Ну, і што? Каб у такія гадзіны яе кадры сталі б страляцца, дык партыя даўно засталася б без кадраў.

— Дык што ж, шліце шэфаў,— папрасіў Цімка.

Загадчык агітпропа завіляў, закружыў па спіралі, абрынуў на Цімку безліч цытат з Маркса, Энгельса, Леніна, Троцкага і нейкага Феербаха, пра якога Цімка ніколі не чуў. З усёй шматслоўнай плыні слоў Цімка *зразумеў толькі тое*, што са сваёй камунай ён забег дужа далёка наперад і цяпер трэба вярнуцца назад, каб набраць разгон, а тады ўжо скочыць у камунізм усім пралетарскім светам.

II

Баюся схлусіць, у якім годзе Цімка паявіўся ў нашай хаце, але дакладна памятаю, што ў самы разгар нэпа. На ім была хромавая скуранка, сінія дыяганалевыя галіфэ, лакіраваныя боты, а на галаве шлем з вялізнымі матацыклетнымі акулярамі, хоць да нас Цімка прыехаў не на матацыклетцы, а верхам на кавалерыйскім кані.

Але нас з братам уразіла не гэта. У Цімкавым роце, на самым відавоку, блішчэў зуб! Нібы дзеля таго, каб усе маглі налюбавацца ягоным гэтым бліскучым зубам, Цімка або смяяўся, або цыркаў слінай паміж бліскучым зубам і жоўтым ад курыва.

Цімка сядзеў на лаўцы, паклаўшы ступню правай нагі на калена левай. У ягоных павольных, як бы ленаватых рухах нам бачылася нешта незвычайнае, недасягальнае і нават таямнічае. Прыгадваю, як ён з чароўнай непаспешнасцю дастаў з кішэні скуранкі пачак папярос «Пушка», змяўшы мундштук папяросы, зрабіў замыславаты круг рукой і папяроса нейкім незразумелым чынам апынулася ў ягоным роце ды яшчэ прыкушаная бліскучым зубам. А далей Цімка дастаў запальнічку, крутнуў калёсіка, ад якога ўспыхнуў агеньчык. Ад яго Цімка і прыпаліў папяросу.

Мы з братам, лежачы на печы, ва ўсе вочы глядзелі на Цімку. Божа, хутчэй бы нам вырасці! Тады мы завялі б сабе па бліскучаму зубу, купілі б лакіраваныя боты, скуранку, па пачцы папярос «Пушка»! Як жа добра быць дарослымі! Мы аж млелі ад дзіцячай зайздрасці, але ўважліва слухалі Цімкавы разглагольстваванні наконт партыйнай палітыкі.

— На дадзеным этапе,— пускаючы дым з носа, гаварыў Цімка,— партыя кінула кліч: абагашчайцеся! Што гэта значыць? Некаторыя лямантуюць, быццам пачалося адступленне ад сацыялізму. А дзела ў следуюшчым: партыя робіць абходны *манеўр*. Во табе, дзядзька, ілюстрацыйны прыклад — наша бублеўская камуна. Чаму яе распусцілі? Вапрос? Вапрос. А я табе растлумачу: у камуне сабралася адна галыцьба. Хвундамента трывалага не было. А нада, каб у ёй саставяў гаспадарлівы і заможны селянін. Таму партыя і кажа: абагашчайцеся, дык і наша дзяржава стане багатай. А во тады ўжо дружна падымемся і рушым у камунізм...

Маці на ўслончыку абірала бульбу. Цімкава гамонка дужа ёй не падабалася.

— А на чорта мне, багатай, твой камунізм. Я і без яго пражыву. Ты мне зямлю дай, а не камунізм,— як зазвычай неспадзявана сказала яна.

Цімка на матчыны словы не адказаў.

— Парція таксама сабе на вуме,— каб запоўніць паўзу, азваўся бацька.— У яе свой клопат...

Тут ужо Цімка не стрымаўся, пачуўшы ў бацькавай рэпліцы нейкае асуджэнне палітыкі партыі.

— Дык што табе на дадзеным этапе не падабаецца ў закліку партыі? — рашуча пайшоў ён у наступ.— Не, ты скажы, скажы...

— Усё падабаецца,— адступіў бацька.— Я да таго кажу, што мужык без зямлі — жабрак. Во, у мяне двое сыноў, а надзел пяць дзесяцін. Ну, раздзялю я яго, дык жа сынам не пражыць.

— Я ж табе, дзядзька, палярна тлумачу: к таму часу, як твае агальцы вырастуць, мы камунізм збудуем.

— Ці не такі, як ты ў Бублеве збудаваў? — зноў падала голас маці.

Тарапліва закончыўшы абіраць бульбу, яна ўзяла даёнку, пайшла даіць кароў.
Цімка адразу памяняўся, стаў дзейсным, напорыстым.

— Я, дзядзька, не так сабе, не ў адведкі прыйшоў. Грашавітая рабацёнка наклёўваецца...

— Так ужо і грашавітая,— засумняваўся бацька.

— Мне хлусіць няма чаго.

— Кажы...

Мы з братам навастрылі вушы, каб не прапусціць, якую ж грашавітую працу знайшоў Цімка, і вельмі ўстрывожыліся: раптам бацька адвергне Цімкаву прапанову. Нам вельмі хацелася, каб бацька разбагацеў.

— Дзела ў следуюшчым,— сказаў Цімка,— пачынаецца нарыхтоўка лёду. А ты ведаеш, колькі гораду патрабуецца лёду? Не ведаеш. А я падлічыў... многа! Тысячы зарабіць можна.

— Заробіш, як Заблоцкі на мыле,— сказаў бацька.— Тысячы! Хоць бы па колькі чырвонцаў...

— Ды ў мяне, калі хочаш ведаць, арцель набрана,— горача загаварыў Цімка.— Толькі з павагі да цябе прапаную схаўрусавацца. Ведаю, лішняя капейчына табе не зашкодзіць.

— Яно так,— згадзіўся бацька.

Яны моцна паціснулі рукі, Цімка выцягнуў з кішэні «чакушку» гарэлкі. Бацька паклаў на стол па лусце хлеба і па цыбуліне. Яны хуценька, пакуль няма маці, выпілі.

Цімка своечасова знік, пстрыкнуўшы нам з братам па носе, але мы не сталі на яго крыўдаваць: у Цімкі залаты бліскучы зуб, *і ён знайшоў для бацькі грашавітую працу.*

Дзён дваццаць бацька ездзіў у горад, каб у Цімкавай арцелі калоць і развозіць лёд. А каб не ганяць каня ў горад улегцы, бацька вазіў на продаж бярозавыя дровы з таго панскага беразняка, які за двое сутак спляжылі нашы мужыкі.

У памяць урэзаўся той зімовы вечар, калі бацька, у апошні раз з'ездзіўшы ў горад, вярнуўся дамоў. Мы сядзелі на печы. Маці ткала на кроснах радніну. Перад абразамі ў чырвоным куце гарэла лампадка. З панадворку пачулася рыпенне саней, фырканне каня, а неўзабаве ў хату ўваліўся бацька, кінуў *на падлогу мех з мароженай рыбай* — пачынаўся вялікі пост. Нам з братам бацька прывёз па кухану. Маці загадаў ставіць самавар.

Потым, калі мы напіліся чаю, бацька дастаў з кішэні суконных штаноў страпаны ўжо кашалёк, пачаў лічыць грошы. Спачатку ён расклаў па слупочках медную драбязу — грашы, капейкі, двушкі, тройкі, пятачкі, потым сярэбраную, а ўжо затым пералічыў папяровыя грошы. Падазраваю, што ён добра ведаў, колькі прывёз грошай, а лічыў ды пералічваў дзеля насалоды.

— Ну во, а ты казала, каб не ўвязваўся ў Цімкаву крутню,— сказаў бацька маці.— А ён, я табе скажу, дзялок і камерсант.

— Ага, камерсант,—не ўзлюбіла бацькаў папрок маці.— Ён вас, дурняў, абабраў, а вы яшчэ радуецеся. А ён, нябось, сабе палавіну забраў...

— А што ты хацела,— заспрачаўся бацька, заступаючыся за Цімку,— каб ён і калуноў набіраў і возчыкаў, а яшчэ з начальствам дамаўляўся. За так ніхто нічога рабіць не хоча: таму дай, гэтаму дай — без падачкі нідзе не абыдзешся. Ды і што я ў хаце высядзеў бы? А так за лета яшчэ падсабіраю грошай, купім малатарню...

— Нямецкую б, ланцаўскую, як у Варапая,— летуценна сказала маці.

III

На двары, пад паветкай, бацька ладзіў шарабан, каб паехаць па Паддубенскага папа — заўтра Юр'е, у гэты дзень у нас свяцілі выпасы і жывёлу.

Было сонечна, зіхатліва, але холадна. Вясна затрымлівалася і на шмат.

Змазаўшы дзёгцем жалезныя восі, бацька «абуў» шарабан коламі, сказаў нам з братам:

— Ну во, гатова дачка папова. Сядайце.

Гэта ў яго была такая прыказка, калі ён канчаў справу. У гэты час на двары і паявіўся Цімка верхам на кані. Быў ён у фрэнчы з накладнымі кішэнямі, у шапцы-шасціклінцы і ў галёшах на лакіраваных ботах.

Павітаўшыся з усімі намі за руку, Цімка сеў у шарабан. Левую нагу паставіў на днішча, правую — на падножку. Сказаў з рашучасцю асуджанага:

— Прыйшоў, дзядзька, па помач...

— Дык і памагайла выгаду шукае,— намякнуў бацька.

— Аб чым дзела,— адказаў Цімка і, дастаўшы пачак папярос, пачаставаў бацьку.— У цябе барана-амерыканка ёсць?

— Недзе была...

— Мне нада за дзень узадраць поле.

— І што за спешка?

— Аграномы кажуць, што самы час сеяць мак.

— Мак? — здзівіўся бацька.

— А ці ведаеш ты, колькі маку патрэбна булачнікам? Не ведаеш. Дык я табе скажу: на сённяшнім этапе — многа.

— А насенне?

— Насенне ёсць,— пахваліўся Цімка.— Ты думаў, я свае грошы ў панчоху пакладу. Няма дурняў! Грошы абарачацца павінны. Тады з іх карысць і прырост. Пасею мак, а ў восень тысячы заграбу...

Здаецца, бацька прасякнуўся Цімкавым намерам, бо параіў яму:

— Калі пад мак, дык лепей бы поле перааараць.

— Навука кажа, што пад мак зямлю можна і не араць. Дык ужо прыедзь, дзядзька, парабі. Я заўтра ж з табой і разлічуся.

Усемагутныя грошы сыгралі сваю ролю: назаўтра бацька паехаў не па паддубенскага папа, а на заробкі да Цімкі. Я ўпрасіў бацьку ўзяць і мяне з сабой.

У талаку Цімка запрасіў яшчэ двух чалавек: Валодзьку Прытупнем і Даніла Хварасцёнка. Першы быў касавокі, лысы і вельмі жвавы, другі — мажны, па вочы зарослы барадой і вельмі маўклівы.

Утрох яны за дзень не толькі ўзадралі аблогу, бульбянішча і леташняе ржышча, але і пасеялі мак.

Пасля працы, як і належала па традыцыі, Цімка выставіў пачастунак: гарнец гарэлкі, скібку сала і гарадскі бохан хлеба, а мне яшчэ і слоік павідла.

За сталом сядзелі паважна, пілі, не спяшаючыся, і патроху слухалі Цімку.

— Які магістральны шлях на дадзеным этапе ўказвае нам партыя? — пытаўся Цімка і сам адказваў: — Культурна весці гаспадарку. Партыя так і сказала: абагашчайцеся на грунце, значыць, культурнага вядзення сельскай вытворчасці. А што ета значыць?.. А тое...

— Тое хвастом баўтое ды яшчэ і гаўкае,— падхапіў Валодзька Прытупнем.

Цімка не пакрыўдзіўся, толькі абазваў Валодзьку несвядомым грамадзянінам і прадоўжыў гаварыць:

— А дзела ў следуюшчым. Наш брат, мужык, прывык думаць, што толькі хранцузы ды немцы-германцы ўмеюць весці культурную гаспадарку. Партыя нам і кажа: нашы мужыкі не горш тых хранцузаў і немцаў-германцаў. Я мыслю, што мы лепей іх...

— Мысліць і баран, пакуль з яго скуру не спусцяць,— зноў не ўтрымаўся Валодзька Прытупнем.

Ал... ўжо цяпер не сцярпеў Даніла Хварасцёнак:

— Дай ты, балаболка, разумнага чалавека паслухаць,— накінуўся ён на Валодзьку Прытупнем.— Я во што хачу сказаць. Як у хранцузаў з культурай, не ведаю, а што ў немцаў — факт. У іх як? Пайшоў ты, скажам, у госці. Сядзіш, закусваеш, бяседуеш, а тут табе захацелася пасраць, па-культурнаму кажучы, схадзіць на двор па-бальшому. У нас дык пайшоў бы за хлеў, ці ў сарцір і дзела з канцом. А немец дамоў пабяжыць, бо тое, што яго, у ягонай гаспадарцы і павінна застацца. Ды і сарціры, *скажу я вам*, у іх не раўня нашым, дужа культурныя.

**[Заканчэнне на стар. 10—11].**

# А праблемы — не дзіцячыя...

**Што прапануюць дзецям нашы «дарослыя» музычныя тэатры! Удзельнікі супольнага пасяджэння секцый музыкі ды харэаграфіі СТД Беларусі палічылі гэта пытанне вельмі надзённым, тым больш, што ўжо з дзесятак гадоў яно не абмяркоўвалася ў прафесійным асяроддзі.**

Пачалася гаворка з агледзін рэпертуару Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі БССР. Музыказнаўца В. Брылон, пералічыўшы цяперашнія і колішнія спектаклі, прызначаныя для малодшых гледачоў, згадала нават «Несцерку» ды «Гуляем у прынца і жабрака» — творы, так бы мовіць, не зусім дзіцячыя. І ўсё роўна іх спіс за 20-гадовую гісторыю тэатра атрымаўся кволы. На прыкладзе «Беласнежкі і сямі гномаў» (гэты «ветэран» паўтара дзесяцігоддзя не сыходзіць з афішы), «Залатога кураняці», «Стойкага алавянага салдаціка» В. Брылон даводзіла, што дзіцячы рэпертуар тут абнаўляецца слаба, а стаўленне да паказу такіх твораў даўно ўжо фармальнае. Проста паказаць спектакль, прапанаваўшы да яго стандартную праграмку, — гэтага мала. Юных гледачоў трэба падрыхтаваць да відовішча, захапіць — хоць бы займальнымі праграмкамі, яркімі буклетамі.

Дзіцячыя спектаклі, мяркуе крытык, выявілі праблему неабходнасці змены акцёрскіх пакаленняў. У свой час трупу тэатра музкамедыі папоўніла цікавая моладзь: Р. Харык, Г. Казлоў, В. Пятліцкая, З. Вяржбіцкая... З часам тэатр «пацяжэў», моладзі цяпер мала, спектаклям бракуе духу студыйнасці, маладзёжнага імпэту.

Усе згаданыя работы тэатра, дадаў балетмайстар А. Яфрэмаў, вымагаюць і асобнай спецыяльнай пластычнай працы з артыстамі. Бо дзеці часам могуць дараваць, напрыклад, нейкія вакальныя агрэхі, але яны вельмі чуйна ўспрымаюць тое, што робіцца на сцэне, і на фальш рэагуюць адпаведна. Прыемным уражаннем для А. Яфрэмава сталіся спектаклі «Пітэр Пэн» і «Тры парасяці» на сцэне ДАВТа БССР, а работа Беларускага дзяржаўнага харэаграфічнага вучылішча ўспрымалася як адкрыццё. Ён падкрэсліў, што калектыў вучылішча мае права і можа рабіць спектаклі для дзяцей, гэта будзе і пераканальна, і неабходна. Так, спектаклі, на якіх гадаваўся б, прызвычайваўся да музычна-тэатральных жанраў будучы глядач, можна палічыць на пальцах: пра якое ж выхаванне, пераемнасць новых глядацкіх пакаленняў можна гаварыць!

Выкладчыца МіКа Н. Кульган засярodзіла ўвагу на прэм'еры балета «Фіеста». Гэта першы поўнаметражны спектакль нашага харэаграфічнага вучылішча. Пастаноўка ажыццёўлена выдатнай характарнай танцоўшчыцай Л. Трамбавельскай на музыку «Іспанскага капрычыо» М. Рымскага-Корсакава. Парадокс, але дагэтуль будучыя артысты балета, па сутнасці, не атрымлівалі рэгулярнай сцэнічнай практыкі: толькі раз на год ладзіўся на сцэне ДАВТа справаздачны канцэрт харэаграфічнага вучылішча. І вось — спектакль, у якім «пройдзена» ўся Іспанія. І хоць з трактоўкай у ім трох любоўных дуэтаў, гаварыла Н. Кульган, можна не пагадзіцца, у цэлым святочнае прывабна аформленае тэатральнае дзейства ўдалося.

Добрых слоў вартая і ўжо даволі даўняя работа — опера «Воўк і сямёра казлянят», пастаўленая цікава, займальна М. Ізворска-Елізар'евай. Шкада толькі, што ідзе спектакль не роўна, не кожны акцёрскі склад адпавядае намерам рэжысуры, часам слухацкаму ўспрыманню замінае невыразная дыкцыя выканаўцаў. Зазначыўшы гэта, музыказнаўца Н. Бунцэвіч выказала заўвагі да стваральнікаў спектакля «Пітэр Пэн», найперш — да кампазітара А. Будзько. На яе думку, твор не зусім акрэслены паводле жанру: ці тое опера, ці мюзікл, як пазначана на афішы? Узнікаюць асацыяцыі з пародыяй на заштампаваны оперны спектакль. Незразумелы і так званы любоўны дуэт: ці то дзеці гуляюць у дарослых, ці то нешта іншае? Пажадана большай раскаванасці ў ігры дзяцей, пераадолення «дарослых» трафарэтаў, якія сям-там застаюцца і ў гэтай, першай пастаноўцы дзіцячага тэатра-студыі пры ДАВТе. «Пітэра Пэна» іграюць дзеці — і менавіта гэта, на думку Н. Бунцэвіч, выклікае найбольшае захапленне ў зале.

Пра цяжкасці і праблемы ў падрыхтоўцы гэтай прэм'еры студыі, пра асаблівасці працы з непрафесійнымі маленькімі спевакамі-акцёрамі распавялі рэжысёр С. Цырук ды хормайстар Н. Ламановіч. У працяг гаворкі загліт ДАВТа Н. Кузняцова паведаміла пра новую форму зносін тэатра з гледачом — своеасаблівыя «сямейныя сеансы», паказ спектакляў з разлікам на юных гледачоў у суправаджэнні дарослых (ці наадварот?). Для цыкла «У тэатр — усёй сям'ёй» падбіраецца лепшы, пераважна класічны, рэпертуар, пачатак спектакля пераносіцца на 18 гадзін; з уступным словам звяртаецца да залы спрактыкаваны лектар-музыказнаўца. Білеты на такія спектаклі прадаюцца па ранейшых цэнах. І ўсё гэта — дзякуючы ініцыятыве галоўнага дырыжора А. Анісімава.

А вось яшчэ ініцыятыва. Дырыжор тэатра музкамедыі Г. Аляксандраў, апантаны праблемай дзіцячага музычнага тэатра ў Мінску, тры гады таму паставіў са студэнтамі музычнага факультэта МДПІ спектакль паводле больш-менш адпаведнага рэальным творчым магчымасцям твора — «Шапка з вушамі» А. Хагагарцяна. Дзеці, якіх запрашалі на прагляды, прымалі яго з захапленнем. Мабыць, і таму, што самі далучаліся да дзеяння як бы знутры: напачатку выканаўцы распавядалі ім пра «кухню» падрыхтоўкі спектакля, асаблівасці працы над касцюмам, над сцэнічным увасабленнем вобразаў, знаёмілі з музычнымі характарыстыкамі персанажаў...

У кастрычніку 1990 г. дзіцячы музычны тэатр пад кіраўніцтвам Г. Аляксандрава афіцыйна зарэгістраваны. Удзельнікі — маладыя акцёры тэатра музкамедыі ды студэнты БДК. Сродкі для існавання ў калектыву, так бы мовіць, сімвалічныя, і меркаваць пра творчую перспектыву пакуль што праблематычна.

Кантрастнай інфармацыяй прагучалі ўспаміны-ўражанні Г. Аляксандрава ад наведанага ім Міжнароднага дзіцячага фестывалю, прысвечанага 100-годдзю С. Пракоф'ева. Свята (а на фоне яго і канферэнцыя «Свет дзяцінства ў мастацкай культуры XX стагоддзя») праходзіла ў Ленінградзе. Там, у адрозненне ад сталіцы Беларусі, належная духоўная праца з дзецьмі вядзецца пастаянна і зацікаўлена. Ёсць дзіцячы музычны тэатр, які працуе на дзяржаўнай аснове. Вучні агульнаадукацыйных школ з музычным ухілам удзельнічаюць у стварэнні музычных спектакляў і як аўтары. Дарэчы, вядомыя, у тым ліку і сусветна, кампазітары прысутнічалі на такой дзіцячай оперы, віталі юных артыстаў. (Ці тое ў нашых канцэртных залах, дзе знаных творцаў пабачыш хіба што на ўласных прэм'ерах?). Там, у Ленінградзе, быў і дзіцячы фестываль, прысвечаны юбілею Чайкоўскага, які ладзілі Саюз кампазітараў, аддзяленне Музфонду, Музычнае таварыства, Фонд культуры, Дзіцячы фонд. І выходзіў на сцэну намеснік старшыні гарвыканкома і абвяшчаў, што гэтая падзея ў музычным мастацтве — падзея для горада...

Можна зразумець крыўду Г. Аляксандрава, якому давялося аднаму за ўсіх выслухоўваць заўвагі крытыкаў накшталт такога, што ў нашым тэатры музкамедыі перад дзецьмі з'яўляюцца «да непрыстойнасці тоўстыя зайцы», — чаму ж нават на гэту канкрэтную размову за «круглым сталом» не прыйшлі ні мастацкія кіраўнікі тэатра, ні прадстаўнікі дырэкцыі, ні загліт? Запрашэнне было...

Відаць, корань нягод музычна-тэатральнай творчасці для дзяцей не столькі ў матэрыяльных праблемах, як у духоўна-маральных «прагалах». У абыякавасці дарослых людзей да быццам бы спецыфічна дзіцячых патрэб, не зважаючы на якія мы грэбуем сваёй будучыняй. І як жа было прыемна паслухаць аднаго з «дзівакоў», неабыякавых, апантаных ідэяй дзіцячага музычнага тэатра, — нашага госця І. Каныгіна.

Рэжысёр, мастацкі кіраўнік дзіцячага музычнага тэатра ў Свярдлоўску, ён дэталёва расказваў пра ўтварэнне (незалежна ад жадання гарадскіх ды абласных улад), структуру, уклад працы, рэпертуар свайго калектыву. Разважаў пра перспектыўнасць спектакляў з удзелам і дзяцей, і дарослых — як вытлумачэнне і збліжэнне дзвюх жыццёвых філасофій, двух светаўспрыманняў, з якіх дзіцячае нашмат шырэйшае і багацейшае.

Калі маладая музыказнаўца пачала зайздросціць «высокаму сацыяльнаму арганізму» Свярдлоўска ды скардзіцца нашаму госцю на культурнае бязладдзе ў горадзе Мінску, дзе энтузіястаў ці то зусім мала, ці то іх не заўважаюць, хоць і павінны, І. Каныгін горача запярэчыў: «Вось кажуць: вы павінны, яны павінны, тыя павінны... Вінен кожны тое, што ўзяў на сябе: вось тое, што я ўскінуў сабе на плечы, — тое я і вінен. І нас таксама не надта заўважаюць. Але мяне гэта неяк мала хвалюе. Ці ёсць у мяне глядач у тэатры або не — вось гэта хвалюе. А ці «заўважаюць»... Зрэшты, у творчасці не павінна быць утульна і хораша».

Госць раскрыў сакрэт «жывучасці» свайго тэатра, які, праіснаваўшы нейкі час пад крылом Цэнтра НТТМ, пасля распаду цэнтра вымушаны быў шукаць крыніцу фінансавання. І знайшоў... ідэю распрацоўкі светлавай апаратуры, мабільнай, складной, кампактнай — на 2 квадратных метры, для тэатральных вандровак. Вынаходніцтва аказалася патрэбным шматкаму яшчэ, разышлося па творчых калектывах краіны, даўшы прыбытак. Такім чынам тэатр зрабіўся «самаспонсарам», заснаваўшы прадпрыемства, якое працуе на творчы калектыў!

Працягваючы тэму фінансаў, І. Каныгін заўважыў, што білеты для дзяцей не павінны быць асабліва танныя. Бо білеты — гэта не чаравікі, якія стоптваюцца ці робяцца цесныя, калі дзіця вырастае. Гэта — духоўнае, маральнае, эстэтычнае, інтэлектуальнае назапашванне, якое неўпрыкмет папаўняе бюджэт сям'і і дасць плён у будучым.

Сапраўды, што пасееш... І калі ў нашым мастацтве дзесяцігоддзі ўжо жыве няпісаны закон «усё таннае — дзецям», дык ці варта здзіўляцца, што жніво нашага агульнага жыцця — гэта збор новых і новых каласоў, начыненых зернем новых невядомых праблем?

**С. БЕРАСЦЕНЬ.**

---

ні і па-бацьку.

Дзіўна, але вяселля я так і не прыпомню. Прыгадваецца нешта тлумнае, нейкі аркестрык з цымбалаў, гітары і гармоніка, нейкія дзіўныя скокі. А вось наступная раніца ўрэзалася ў памяць.

Нам з бацькам быў адведзены пакой у флігелі. Чаму нас не пакінулі ў доме, дзе было аж восем пакояў, не ведаю і не разумею, хоць і здагадваюся.

Раніцай я прачнуўся ад таго, што зарыпелі дзверы і пачуўся Цімкаў шэпт:

— Не спіш?

— Не...

— А малы?

— Спіць...

— То давай пахмелімся.

Мне было цікава паслухаць, пра што будуць гаварыць дарослыя, і я прытварыўся, што сплю.

— На чорта табе здалася гэтая старая качарга? — спытаўся бацька, калі яны выпілі па другой, а можа, і па трэцяй чарцы.

— Давай для яснасці яшчэ чыкалдыкнем, — прапанаваў Цімка, а калі яны выпілі і яшчэ, сказаў: — Дзела, дзядзька, у следуюшчым. Рабочаму класу, тоісь пралетарыяту, сельскі прадукт во як патрэбны, тоісь да зарэзу. А Кацька гаспадарку давяла да форменнай трубы. Я яе арандатараў прагнаў. Сам працаваць буду. Ёсць у мяне на прыкмеце яшчэ двое апанаваных камунізмай чалавек, яны мне дапамогуць паставіць хутар на культурныя ногі.

— А пані? Яна не супраць? — спытаўся бацька.

— Кацька сама з ідэйных беспартыйных бальшавікоў. Яна так і сказала: раз для патрэб пралетарыяту — рабі як ведаеш. Я малочную ферму ствару — раз. Маслабойку з сыраварняй аднаўлю — два. На сажалцы развяду гусей і качак — тры. Вунь у тым ляску пабудую трусіную ферму — чатыры. А на адходах стану разводзіць свіней. Ды я рабочы клас прадуктамі завалю.

— Дзялы, — толькі і сказаў бацька, але, здаецца, не паверыў у Цімкаву ўдачу.

Я ўжо хадзіў у другі клас, калі патроху загаварылі пра кулакоў і раскулачэнне. Бацька не хацеў верыць, быццам у нас ёсць кулакі, і на гэтай глебе ў іх з маці ўзнікалі частыя спрэчкі.

— Знойдуць кулакоў, — казала маці. — Паглядзіш — знойдуць.

Яна як у ваду глядзела.

Недзе пасля Хрышчэння ў нашу хату прыйшла благая вестка: раскулачылі бацькаву сястру Ульяну. Бацька запрог каня, узяў мяне з сабой, і мы паехалі ў горад, на станцыю, куды павезлі цётку Ульяну.

Раскулачаныя сядзелі на пероне. Стаяла жудаснае выццё жанчын і лямант дзяцей, а кулакоў усё падвозілі і падвозілі. Мы з бацькам хадзілі па пероне, шукалі цётку, калі нас *нехта гукнуў.* Азірнуліся — Цімка!

— А ты што тут робіш? — спытаўся бацька.

— На сённяшнім этапе во якая сітуацыя, — панура сказаў Цімка. — Я хацеў, як лепей, а выйшла наперакос. Які я кулак, дзядзька. Толькі што зямлі шмат. *А так... Адна карова і тая перадойка.* Ды яшчэ пані. Адно званне пані. Больш нічога.

— З савецкай уладай жарты не варта ладзіць, — сказаў бацька, і мы пайшлі шукаць цётку.

. . . . . . . . . . .

Знарок і не прыдумаеш: увечары прыгадаў Цімку і родныя мясціны, а раніцай, як снег на галаву, звалілася дачка траюраднай сястры Ганны. Прыехала на нараду арандатараў.

— Ну, і як справы ў арандатараў? — спытаўся я.

Думаў, яна хваліцца пачне. Дзе там! Яна як панесла на нашы парадкі, на начальства, на Дземянцея з Малафеевым, аж мне кепска стала — ну, ці мала як *яшчэ павернуцца справы! А яна анічога* не баіцца, кляне ўсіх напрапалую, што не хочуць селяніну зямлю даць, ім жа тады і кіраваць нечым будзе.

— І дзе ж ты зямлю арэндуеш? — спытаўся я, абы яна перастала хаяць начальства.

— Дык вы, дзядзька, мабыць, ведаеце хутар за могілкамі, Цімкаў...

Я толькі горка ўсміхнуўся: знаёмы хутар, знаёмы шлях.

# РЭЛІГІЯ І МОВА

**Леанід ЛЫЧ,**
доктар гістарычных навук

(Працяг. Пачатак у №№ 29, 31, 32).

## 4. У ЦІСКАХ ПРАВАСЛАЎЯ І КАТАЛІЦЫЗМУ

У адрозненне ад папярэдніх часоў, калі галоўнай палітычнай функцыяй праваслаўнай царквы Рускай дзяржавы было ідэалагічнае абгрунтаванне яе барацьбы з Рэччу Паспалітай за адрыў ад апошняй беларускіх зямель, цяпер ужо Маскоўская патрыярхія сама ўзяла на сябе ініцыятыву праводзіць тут палітыку русіфікацыі, *блізкую да той, што ажыццяўляў непасрэдна царызм.* У гісторыі дастаткова пераканаўчых фактаў, якія даюць падставы заключыць, што праваслаўная царква Расійскай імперыі, стаўшы актыўным правадніком палітыкі русіфікацыі на беларускіх землях, дамаглася ў гэтым значна большага, чым *сама руская адміністрацыя, якая з'яўлялася* поўным гаспадаром на далучанай тэрыторыі. Здзейсненае праваслаўнай царквой па русіфікацыі беларускага насельніцтва, што якраз адпавядала і афіцыйнай палітыцы, не робіць гонару праваслаўю, бо дзякуючы гэтаму яно перастала быць фактарам культуры для цэлага этнаса.

Характэрна, што на першым часе пасля далучэння ўсёй тэрыторыі Беларусі да Расійскай імперыі Найсвяцейшы сінод менш за ўсё цікавіўся тым, якую палітыку на беларускіх землях праводзіла каталіцкая царква. Добра бачачы, што царская адміністрацыя і рускае праваслаўнае духавенства перш за ўсё зацікаўлены, як наладзіць адносіны з беларускім праваслаўным насельніцтвам, і нібы не заўважалі вернікаў грэка-каталіцкай царквы, служыцелі польскага каталіцкага кліру правільна выбралі ў гэтай сітуацыі пазіцыю, распачаўшы ўсімі сіламі і сродкамі перацягваць на свой бок уніятаў, якія не мелі аніякай падтрымкі ад новай афіцыйнай улады, г. зн. расійскай. І варта адзначыць, што такія задумы каталіцкай царквы часта лепш удаваліся, чым нават у той час, калі беларускія землі знаходзіліся ў складзе Рэчы Паспалітай. Служыцелі гэтай канфесіі паказалі сябе даволі гнуткімі палітыкамі. Бачачы, што далучэнню беларусаў уніяцкага веравызнання да каталіцкай царквы можа ў значнай ступені паспрыяць ужыванне тут іх роднай мовы, яны спрабавалі сёе-тое зрабіць і ў гэтым напрамку. Асабліва прыхільна пачалі ставіцца кіраўнікі гэтай рэлігіі да этнакультурных традыцый беларускага народа з другой паловы XIX стагоддзя, калі ў сувязі з развіццём капіталістычных адносін у *людзей сталі* ў большай ступені абуджацца нацыянальныя пачуцці, вырасла зацікаўленасць да свайго мінулага, павага да духоўных каштоўнасцяў, у тым ліку і да мовы сваіх продкаў. Пра паважлівыя адносіны некаторых кіраўнікоў каталіцкай царквы да богаслужэння на роднай мове беларусаў сведчаць і звесткі з «Успамінаў аб Слуцку» барона Сталя (Стаэля), якія выдадзены ў 1905 годзе ў польскім горадзе Гнезна бліз Познані. Адшукаць іх удалося Мальдзісу. Аўтар успамінаў, прыгадваючы велікодную цырымонію ў Слуцку, засведчыў, што завяршылася яна «Казаннем кс. Шантыра на народнай беларускай мове; сяляне слухалі тое казанне з вялікай увагай».

Затое аніякіх уступак беларускаму нацыянальнаму элементу на яго гістарычнай тэрыторыі не збіраўся рабіць Найсвяцейшы *сінод. Ён ніяк не мог змірыцца з тым,* што на значнай прасторы беларускіх зямель непадзельна пануе ўніяцтва. Вядзенне ва уніяцкіх храмах набажэнства пераважна на яго роднай мове было, несумненна, адной з прычын, што іх прыхаджане зусім не праяўлялі зацікаўленасці да рускай праваслаўнай царквы *пасля ўключэння Беларусі ў склад* Расійскай імперыі. А між тым, Найсвяцейшы сінод без доўгага роздуму накінуўся на гвалтоўнае перахрышчванне беларусаў-уніятаў. Паралельнае выкарыстанне для гэтай мэты дзяржаўнай і царкоўнай улады прывяло да таго, што ўжо неўзабаве пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) да праваслаўя вярнулі два мільёны уніятаў. Пра гэты далёка не мірны акт вядомы дарэвалюцыйны гісторык рускай праваслаўнай царквы Г. Кіпрыяновіч усё ж напіша, што ён адбыўся «па ўласнай сардэчнай схільнасці і па закліках пастыраў».

Пагадзіцца з Г. Кіпрыяновічам няма аніякіх падстаў, бо ўжо першыя спробы Найсвяцейшага сінода па выкараненні уніяцтва паказалі, што гэта будзе зусім не лёгкай справай, што тут не абысціся без больш эфектыўнай дапамогі свецкіх улад, якія на Беларусі фарміраваліся выключна *з прысланых з Расіі* чыноўнікаў. У ход былі пушчаны падман і розныя абяцанні перш за ўсё ў разліку схіліць на свой бок кіраўнікоў уніяцкага духавенства сельскай мясцовасці, як менш тэарэтычна адукаваных. Сяго-таго з іх і сапраўды ўдалося даволі хутка ўгаварыць адрачыся ад уніяцтва і зрабіць актыўным правадніком рускага праваслаўя на Беларусі. Праўда, назіралася нямала выпадкаў і прама процілеглага характару, бо многія кіраўнікі уніяцтва, што паходзілі з сялянскага асяроддзя, былі вельмі прывязаны да духоўных традыцый, мовы свайго народа і таму не жадалі згубіць усё гэта з пераходам у праваслаўе.

Адхапіўшы значную частку карэнных беларускіх зямель у выніку першага падзелу Рэчы Паспалітай, Расія рыхтавалася да новых прырэзак яе тэрыторый, дзе «пакутуюць» у няволі мільёны праваслаўных. І такі час надышоў. За два гады пасля другога падзелу Рэчы Паспалітай (1793 г.), як сведчаць публіцыстычныя пошукі К. Тарасава, на беларускіх землях з уніяцтва ў праваслаўе былі пераведзены 463 прыходы з колькасцю вернікаў 330 тысяч чалавек. Усяго ж за 1794—1797 гады ад уніяцтва гвалтам адлучылі больш за паўмільёна чалавек, што значна перавышала колькасць схіленых ва уніяцтва за першыя чатыры гады пасля заключэння Брэсцкай уніі. І вынікам такога «поспеху» трэба лічыць не жаданне людзей вярнуцца да праваслаўя, а ўжыванне дзеля гэтых мэт больш дзейсных сродкаў уціску.

Дарэвалюцыйныя даследчыкі гісторыі рэлігіі ніяк не хацелі лічыцца з гэтым фактарам. Далёкім быў ад ісціны і наш зямляк Ю. Крачкоўскі, калі пісаў, што пасля падзення Рэчы Паспалітай і далучэння Беларусі ў склад Расійскай імперыі «уніяты пад новым уладараннем адразу адчулі духоўную волю і на поўныя грудзі змаглі ўдыхуць у сябе новыя жыватворныя павевы. Ім пачынала бачыцца запаветная зямля, якой дарэмна яны шукалі на працягу двух стагоддзяў». Якую зямлю знайшлі уніяты ў сапраўднасці, пакажу трошкі ніжэй.

Безабаронным у пытаннях веравызнання беларусам-уніятам нічога не заставалася рабіць, як маўкліва падпарадкавацца мацнейшаму. Дзякуючы прыняццю цэлага комплексу самых розных захадаў, а галоўным чынам ужыванню строгіх санкцый супраць непакорных рускай праваслаўнай царкве ўдалося праз пэўны час пасля далучэння Беларусі да Расійскай імперыі зноў вярнуць у сваё лона больш за тры мільёны беларускіх уніятаў. Радасці, вядома, ад гэтага яны не адчулі, бо ў дзеяннях рускай праваслаўнай царквы, апроч чыста канфесійнага, было нямала і таго, ад чаго адкрыта патыхала русіфікацыяй. Ад тае злашчаснае пары былы беларус-уніят ужо не чуў сваёй роднай мовы ў час адпраўлення рэлігійнай службы. Але ў народа ніколькі не знізілася павага да веры, якая паспела так трывала стаць на нацыянальны грунт, узвысіць у вачах людзей духоўныя каштоўнасці роднага краю. Вось чаму, як толькі цар Павел І скасаваў указ аб прымусовым далучэнні на тэрыторыі Расійскай імперыі уніятаў да праваслаўнай царквы, прыкладна 90 працэнтаў іх пажадала вярнуцца да сваёй былой нацыянальнай веры. Акрамя Полацкай уніяцкай епархіі, аднавіла сваю дзейнасць і Брэсцкая.

Характэрную для працяглага часу няпэўнасць лёсу беларускіх уніятаў заўсёды разумна выкарыстоўвалі польскія католікі, тым больш што і да іх вельмі прыхільна ставіўся цар Павел І. У рознага роду спрэчках паміж уніятамі і католікамі ён часта падтрымліваў апошніх. Адзін час нават хадзілі чуткі, што рускі ўрад збіраецца ліквідаваць уніяцкую царкву, а іх вернікаў з лацінянамі. Таму і не дзіўна, што каля 200 тысяч уніятаў і сапраўды здзейснілі такі акт, чым усур'ёз напалохалі свецкія і царкоўныя ўлады Расійскай імперыі. Цару давялося зрабіць адпаведныя захады, сярод якіх важную ролю адыграла аднаўленне ў 1809 годзе дзейнасці Літоўскай мітрапалічай уніяцкай епархіі.

Дэмакратычныя і гуманныя акты Паўла І і Аляксандра І у дачыненні да ўніятаў не спадабаліся Найсвяцейшаму сіноду, многім царскім чыноўнікам, што паспелі ўжо ўладкавацца на службе ў Беларускім краі. Яны лічылі, што так не павінна быць, што неўзабаве надыдзе час, калі можна будзе прадоўжыць распачатую пры Кацярыне ІІ справу. І такі час сапраўды блізіўся. Неба над уніяцкай царквой з усіх бакоў засцілалася цёмнымі хмарамі.

По вопыце ўвядзення Брэсцкай царкоўнай уніі 1596 года, *пачалося з апрацоўкі* самых высокіх іерархаў грэка-каталіцкай царквы. І даволі паспяхова. Першым удалося схіліць на свой бок уніяцкага мітрапаліта Лісоўскага. Гэта ён у 1806 годзе загадаў, каб у час службы ва уніяцкіх цэрквах царскае імя ўпаміналася перад папскім, унёс прапанову падпарадкаваць уніяцкі дэпартамент Святому Сіноду, пачаў весці службу па архіерэйскім служэбніку маскоўскага друку. На такіх жа пазіцыях стаяў яго пераемнік архіепіскап Красоўскі, якога базыляне нават называлі схізматыкам, г. зн. праваслаўным. Праўда, ёсць такія меркаванні, што як Лісоўскі, так і Красоўскі ішлі на зблізкэнне з праваслаўем толькі дзеля адной адзінай мэты: не дапусціць, каб уніятаў канчаткова праглынула каталіцкая царква. І ў гэта можна паверыць, бо агрэсіўнасць апошняй заўсёды набывала самы небяспечны характар менавіта тады, калі штосьці не ладзілася ва уніятаў.

У рэлігійнай палітыцы Найсвяцейшага сінода, якую яна праводзіла пры самай непасрэднай падтрымцы царскага ўрада на далучаных да Расіі беларускіх землях, адразу ж ледзь не самае галоўнае месца заняло моўнае пытанне. І ўсё гэта ад таго, што як царкоўныя, так і свецкія ўлады не прызнавалі, што ў беларускага народа ёсць свая ўласная мова, якая мае ўсе падставы быць і мовай набажэнства ў любой канфесіі гэтага краю. Нічым іншым, як канфузам, не назавеш, што ў абсалютнай большасці выпадкаў губернатары і прадвадзіцелі дваранства са згоды ўрада вельмі ахвотна садзейнічалі распаўсюджванню сярод уніяцкага насельніцтва кніг Свяшчэннага пісання на польскай мове (друкаваліся ў Пецярбурзе і Маскве), абы каб толькі не абцяжарваць сябе клопатамі аб роднай мове беларусаў, якая, як гаварылася вышэй, даволі шырока ўжывалася уніяцкай царквой, пра што не маглі не ведаць праваслаўныя іерархі. Тое, што рабілася ў праваслаўнай Расійскай імперыі ў дачыненні да роднай мовы беларускіх і ўкраінскіх уніятаў, не ішло ні ў якае параўнанне з тым, як ставілася да гэтага пытання каталіцкая Аўстрыя ў адносінах да падпаўшых пад яе ўладу жыхароў Галіцыі, г. зн. украінцаў па паходжанні. Імкненне Найсвяцейшага сінода і царскай адміністрацыі размыць этнічную самасвядомасць беларусаў, дзеля чаго, лічылася, нават можна пайсці на адкрыццё шырокага доступу польскай мове ў набажэнства уніяцкай царквы, магло схіліць многіх з іх—і гэта сапраўды так адбывалася—да польскай, каталіцкай арыентацыі. Такі настрой ва уніятаў Беларусі і Літвы заўважыў нават будучы расійскі імператар Мікалай І, які служыў у гэтым краі ў 1821—1822 гадах камандзірам гвардзейскай брыгады, і, зразумела, пастараўся сваю заклапочанасць развіццём падобнай тэндэнцыі давесці да ведама аўтарытэтных асоб. І яны прыслухаліся.

Карэнныя перамены ў моўнай палітыцы рэлігійных і свецкіх улад на беларускіх землях, як ні дзіўна, звязаны з дзейнасцю не якога-небудзь буйнога дзяржаўнага палітыка, якога прырода надзяліла яшчэ і лінгвістычным дараваннем, а са знаходжаннем, службай тут адмірала А. Шышкова. Гісторык рэлігіі Г. Кіпрыяновіч так характарызаваў яго: «...дбайны захавальнік чысціні рускай мовы і змагар за славянскае яднанне, першы з дзяржаўных людзей глянуў на грэка-уніятаў, як на людзей рускіх, а на спавядаемую імі веру, як на веру грэка-ўсходнюю». Ён праяўляў сталыя клопаты «аб узмацненні вывучэння рускай мовы ў навучальных установах Віленскай навучальнай акругі». Зусім зразумела, у якой ступені гэты высокага тытулу вайсковец дбаў пра рускі элемент у нашым краі, у

(Працяг на стар. 14).




З серыі «Помнікі дойлідства Беларусі». Мастак У. БАСАЛЫГА.

# РАЗАМ ПЯЧЫ КАРАВАЙ

## Польскі друк пра Беларусь і беларусаў

ТЭМА Беларусі і беларусаў апошнім часам заняла сталае месца на старонках польскага цэнтральнага і рэгіянальнага друку. Выклікана гэтае абуджэнне цікавасці да тэрыторыі «крэсаў усходніх» былое Рэчы Паспалітай і адраджэннем гістарычнай памяці суседніх народаў, і працэсам суверэнізацыі Украіны, Беларусі і Летувы, а таксама і фарміраваннем усходняй палітыкі посткамуністычнай Польшчы. Доўгі час мадэль савецка-польскіх міжнацыянальных і міждзяржаўных узаемадачыненняў практычна выключала з гэтай сферы такіх юрыдычна паўнапраўных суб'ектаў, як Беларусь, Украіна і Летува. І толькі цяпер фарміруецца свядомасць гэтых народаў і іх дзяржаўных утварэнняў па пытанні ўзаемадачыненняў.

На гэтым перыядзе станаўлення і фарміравання праступаюць пэўныя супярэчнасці і засцярогі, што лагічна і заканамерна вынікаюць з гісторыі ўзаемаадносін, з поглядаў і ацэнак учарашніх і сённяшніх арганізацый, груп і людзей. Безумоўна, усё гэта адлюстроўваецца ў польскіх газетах і часопісах. Газета «Літаратура і мастацтва» ўжо падавала на сваіх старонках агляды польскіх матэрыялаў пра Беларусь і беларусаў. Не прэтэндуючы на шырокі ахоп, адзначым некаторыя новыя публікацыі 1991 года.

Падзеяй можна назваць другі нумар каталіцкага часопіса «Вензь», які выходзіць у Варшаве і мае ў Польшчы даўні аўтарытэт. Нумар часопіса называецца «Беларускі шлях да волі» і большасць змешчаных у ім матэрыялаў прысвячаецца беларускай тэматыцы. Рэдакцыя звяртаецца да чытачоў з наступнымі словамі: «...Савецкі Саюз страціў сваё манапалістычнае аблічча. Народы, якія ўваходзяць у яго склад, не толькі набываюць сваю самабытнасць, але і штораз гучней згадваюць пра незалежнасць. ...гісторыя вучыць, што прагу волі аднойчы абуджанага немагчыма ўжо пахаваць, нават пры выкарыстанні ўсіх даступных сродкаў. Раней ці пазней будзем суседзямі на Усходзе з многімі партнёрамі — суверэннымі дзяржавамі альбо іх свабоднай канфедэрацыяй».

Нумар невыпадкова прысвечаны беларусам, шлях якіх да волі, па словах рэдакцыі, асабліва цяжкі, і таксама з віны палякаў. «Да нарастаючых жаляў і прэтэнзій сучаснасць дадае ўсё новыя,— пішацца ў рэдакцыйным уступе.— Большасць з іх атрымалі ў спадчыну ад Другой Рэчы Паспалітай і ад камунізму. Але таксама праўда і тое, што ў новай, вольнай Польшчы ўсё не здолеем наладзіць стасункі з беларусамі, якія з'яўляюцца польскімі грамадзянамі (маецца на ўвазе беларуская меншасць у Польшчы.— **Ю. З.**) так, каб яны адчувалі тут сапраўды «ў сябе...»

Рэдакцыя спадзяецца на нармалізацыю адносін і на сапраўднае добрасуседства. Нумар «Вензі», на яе думку, дапаможа наладзіць дыялог і прысвячаецца «дзеячам і прыхільнікам Беларускага Народнага Фронту,— людзям, якія, нягледзячы на пагрозы і перашкоды, гэтак многа робяць для сваёй айчыны».

Нумар адкрываецца інтэрв'ю з ксяндзом Тадэвушам Кандрусевічам, біскупам рыма-каталіцкага касцёла на Беларусі (не так даўно яго змяніў на гэтай пасадзе кс. Казімір Свёнтак). З размовы можна даведацца, што сёння на Беларусі працуюць 62 святары лацінскага абраду, у тым ліку запрошаных з Польшчы з прычыны адсутнасці мясцовых — 30, і яны абслугоўваюць 215 касцёлаў. Ксяндзы з Польшчы атрымалі дазвол на працу ў Беларусі толькі на год, і таму будучыня іх няпэўная, хоць шмат хто з іх хацеў бы застацца на працу і далей. Кс. Тадэвуш Кандрусевіч сказаў у інтэрв'ю, што часта гаворыцца пра 2,5 мільёна рыма-католікаў на Беларусі, але ён лічыць, што іх каля 700 тысяч чалавек, і нават для гэтай колькасці людзей умовы для адпраўлення культу яшчэ не створаны, хаця касцёлы паступова перадаюцца вернікам і дзяржава дапамагае іх аднаўляць. Самая вострая праблема, бадай, з кадрамі, але і яна апошнім часам пастунова вырашаецца: адчынена семінарыя ў Гродне, дзе першыя 37 кандыдатаў на капланскі стан прыступілі да навукі. Шырыцца катэхізацыя сярод вернікаў і асабліва дзяцей. Дапамагае катэхізацыі рэлігійная літаратура з Польшчы, выдадзены нядаўна польска-расійскі і беларускі катэхізм.

Кс. Кандрусевіч закрануў важную праблему мовы ў царкве. «Сёння польская мова, нават на Гродзеншчыне, ужо не ўжываецца і не разумеецца. На вёсках людзі гавораць рознымі гаворкамі». На думку кс. Кандрусевіча, касцёл каталіцкі — гэта значыць, для ўсіх, і набажэнствы адпраўляць трэба ў той мове, якой патрабуе народ, вернікі, каб усе адчувалі сябе ў храме добра. Біскуп згаджаецца з думкай журналіста, што вернікі часта падкрэсліваюць свой выбар польскай мовы толькі па традыцыі, а не паводле свядомага выбару, і таму, калі беларуская мова не будзе пашырацца ў касцёле, працэс нацыянальнага самаакрэслення толькі зацягнецца. Касцёл жа павінен ісці ў авангардзе гэтага працэсу, калі на беларускую імшу будзе хадзіць нават 10 чалавек. «Хацеў бы, каб штораз болей было беларускай імшы»,— сказаў біскуп Кандрусевіч. На яго думку, увядзенне яе стрымліваецца і недахопам, падрыхтаваным для гэтага святароў, і недахопам беларускамоўнай рэлігійнай літаратуры, спецыялістаў па перакладзе. Але захады зроблены ўжо і ў гэтым кірунку.

«Беларусь — краіна многіх культур, традыцый, вызнанняў і моў. Кожную з іх трэба бараніць, каб захаваць унікальны характар гэтай зямлі»,— так скончыў свае словы ксёндз Тадэвуш Кандрусевіч. Хочацца спадзявацца, што сённяшні біскуп кс. Казімір Свёнтак падзяляе гэткі пункт гледжання.

У часопісе змешчаны яшчэ адзін матэрыял па праблемах веравызнання на Беларусі ў аспекце нацыянальна-культурным. Гэта «Ліст у абарону беларусаў-католікаў», ксяндза з Вішнева Мінскай вобласці Уладзіслава Чарняўскага. Напісаны ліст яшчэ ў 1987 годзе да арганізаванай ксяндзамі-езуітамі ў Лодзі канферэнцыі пад назвай «Беларусы, летувісы, украінцы, палякі — перадумовы паяднання», але дагэтуль актуальны. У. Чарняўскі пратэстуе супраць паланізацыйнай дзейнасці некаторых святароў. «Ёсць і зараз, і пераважна ксяндзы, якія не хочуць і злуюцца, калі хто не ўмее па-польску і гаворыць па-беларуску: як я чуў у Солях, у Вішневе ў ксяндза Svіра, у Астраўцы, у Жупранах і амаль ва ўсіх парафіях на Беларусі. Такім спосабам сваім духоўным аўтарытэтам хочуць спаланізаваць католікаў-беларусаў, ...а ўсё зло ідзе зверху,— піша кс. У. Чарняўскі,— з галавы. Хіба тут і прычына сённяшніх пачыненняў ксяндзоў на Беларусі. А чаму? Таму, што ў Епіскапальным календары напісана: «Пінск» — Польшча. Заходняя Беларусь — гэта далей «Крэсы Всходне» — трэба спаланізаваць, падрыхтаваць пад акупацыю».

На старонках часопіса падаецца інтэрв'ю са старшынёй замежнай камісіі БНФ Валянцінай Трыгубовіч і віцэ-старшынёй БНФ Міхасём Ткачовым. Нашы суайчыннікі, як відно з інтэрв'ю, бачаць будучыню беларуска-польскіх узаемадачыненняў у прыязі і гатоўнасці дзеля гэтага ісці на «мудрыя кампрамісы».

Артыкул польскага аўтара Антоні Міркулевіча «Рэфлексіі беларускія» закранае жыццё беларусаў у Другой Рэчы Паспалітай у 20—30-я гады. Праўдзіва апісвае аўтар сацыяльны і нацыянальны прыгнёт беларусаў, што дагэтуль жыве ў гістарычнай памяці беларусаў і спараджае адмоўны рэфлекс да санацыйнай Польшчы. Некаторыя сучасныя публіцысты пішуць пра нібыта фізіялагічна ўласцівую беларусам антыпатыю да палякаў, атаясамліваюць беларускае мысленне па прыродзе сваёй з камуністычным і таталітарным, не шукаючы іншага тлумачэння таму ці другому феномену. А. Міркулевіч і спрабуе даць гістарычнае тлумачэнне сучасным комплексам свядомасці.

У часопісе «Вензь» яшчэ шэраг матэрыялаў апавядае пра важныя палітычныя, нацыянальныя і культурныя падзеі і працэсы на Беларусі з 1902 года да нашых дзён, расказваецца пра гісторыю і развіццё нелегальнага друку ў БССР. Адам Глябовіч знаёміць польскага чытача з дзейнасцю БНФ і гісторыяй нараджэння гэтага руху. Іншыя матэрыялы закранаюць моўную сітуацыю ў БССР, палажэнне беларускай меншасці ў Польшчы. Вельмі цікавыя допісы пра жыццё і творчасць вядомага польскага літаратара і пісьменніка Юзафа Мацкевіча, а таксама пра пісьменніка, ураджэнца Барысаўшчыны Фларыяна Чарнушэвіча.

Шмат якія праблемы і непаразуменні ўзнікаюць з-за неінфармаванасці, адсутнасці яснасці для ўсходніх суседзяў Польшчы ў яе ўсходняй палітыцы. Гэтую ды іншыя праблемы закрануў у сваім артыкуле пад назвай «Мары Казіміра Падляскага і рэчаіснасць» вядомы ў Польшчы публіцыст, аўтар кнігі па праблемах узаемаадносін Польшчы і ўсходніх суседзяў Багдан Скарадзінскі. Артыкул заслугоўвае ўвагі, і таму спынімся на ім больш падрабязна.

Аўтар фармулюе праблемы — як нарэшце наладзіць нармальныя і добрасуседскія адносіны з трыма народамі па ўсходняй мяжы Польшчы — беларускім, украінскім і летувіскім. Паводле Б. Скарадзінскага, вымагаюць гэтага добрасуседства юрыдычныя, сентыментальна-гістарычныя і, што асабліва важна ў наш час, геапалітычныя аргументы. Але досведу раўнапраўных адносін з гэтымі народамі Польшча не мае. Багаж гісторыі падае ўсяго шмат, і асабліва горшага... Ды адносіны трэба наладзіць як найхутчэй, бо рэчаіснасць наслойвае новыя, свежыя эфекты, і зноў жа — не лепшыя...

На думку аўтара, сёння справа ўзаемадачыненняў знаходзіцца на ўзроўні зацікаўлення сваімі нацыянальнымі меншасцямі ў суседскіх дзяржавах. «І ўсюды... відавочная дамешка сварак, жаляў ці яўна канфліктагенных элементаў, прыкладам чаго польска-летувіскія праблемы вакол Вільні і — да пэўнай ступені — беларуска-польскія вакол Беластока».

Зацікаўленне Польшчаю на ўсходзе, па вызначэнні аўтара, існуе альбо ў «базарна-рынкавым» аспекце, альбо «рыхтуюць наступ ці не рыхтуюць». І пакуль ніхто сур'ёзна не глядзіць на Польшчу як на «частку братэрскага Усходу».

Б. Скарадзінскі лічыць, што зараз карысна было б інфармаваць, абуджаць, актывізаваць грамадства ў кірунку ідэй добрасуседства і прыязі. Братэрскія народы ў адказ на гэта рана ці позна зоймуць годныя паставы і зробяць адпаведныя пачынанні.

Як бачым, «Вензь» зрабіў крок насустрач Усходу. Хочацца спадзявацца, што ініцыятыва не згасне і знойдзе прадаўжальнікаў паабапал мяжы.

Праблемы беларускай нацыянальнай меншасці былі падняты і на старонках сакавіцкай кніжкі беластоцкага часопіса «Плюс» ад 9—30 сакавіка. Збігнеў Сушчыньскі ў сваім артыкуле «Адчужанасць» піша, што пасля няўдалага візіту ў БССР міністра замежных спраў Польшчы Скубішэўскага вакол беларусаў Беласточчыны «яшчэ болей цесніцца сцяна польскай непрыязі». Гэта спантанная рэакцыя кіруецца стэрэатыпамі і прадузятасцю грамадскай рэакцыі, «каторай польскія палітычныя эліты не кантралююць і нават не стараюцца кантраляваць». Беларусы ў гэтай сітуацыі знаходзяцца ў псіхалагічным стане «аблежанай крэпасці». Сярод іх, як этнічнай і рэлігійнай (праваслаўнай) меншасці, «нарастае пачуццё адчужанасці да інстытуцыянальных і сімвалічных форм польскай дзяржаўнасці». Паводле З. Сушчыньскага, беларуская меншасць пад уплывам грамадскага ціску і фактычна зняважаная дзяржавай чуецца пераследаванай, выразным сімптомам чаго з'яўляецца падатлівасць беларусаў на антыпольскія плёткі пра свядомы «антыбеларускі» падпал і рабаванне цэркваў (хоць сапраўдныя злачынцы дагэтуль не знойдзены).

На думку аўтара, віна за адсутнасць у беларусаў ідэнтыфікацыі з польскай дзяржавай у Польшчы вельмі лёгка пераносіцца на іх саміх. Ім інкрымінуецца «прыроджаная» прасавецкая і пракамуністычная ментальнасць і прыродная «невылечная нелаяльнасць да польскай дзяржавы».

На заканчэнне аўтар робіць выснову, што абавязак большасці ў дэмакратычнай дзяржаве — стварыць нармальныя ўмовы для жыцця меншасці.

У тым жа нумары «Плюса» змешчана інтэрв'ю з лідэрам Беларускага Дэмакратычнага Аб'яднання (БДА) Яўгенам Мірановічам, які растлумачыў пазіцыю БДА і задачы яе працы сярод беларускай меншасці. Беларускія дзеячы на Беласточчыне лічаць, што «беларуская меншасць павінна займацца перш за ўсё справамі ўласнай культуры, асветы, гаспадаркі, каб быць раўнапраўным партнёрам для польскай большасці ва ўсіх тыпах кантактаў». Кіраўніцтва БДА лічыць таксама, паводле Я. Мірановіча, абсурдным правядзенне межаў паміж беларускімі і польскімі асяродкамі. Адносна ж польскага ўспрымання беларусаў у інтэрв'ю праводзіцца думка, што

# РЭЛІГІЯ І МОВА

(Пачатак на стар. 13).

такой жа ступені, калі нават не ў большай, ён таптаў тут усё сапраўднае беларускае. І на гэтым прыватным выпадку яскрава відаць, што высновы аб прагрэсіўнасці далучэння ў канцы XVIII стагоддзя Беларусі да Расійскай імперыі, якія дзесяцігоддзямі выкладаліся вучонымі-гісторыкамі, будаваліся на багністым грунце і са спарахнелых бярвенняў.

У адмірала А. Шышкова было шмат паслядоўнікаў з ліку мясцовай адміністрацыі, у аснове сваёй рускай па нацыянальным паходжанні чыноўнікаў. Русіфікацыя набірала добрыя абароты. Ужо ў 1824 годзе гісторыю, геаграфію і статыстыку пачалі выкладаць на рускай мове ў Віленскім універсітэце і ва ўсіх сярэдніх навучальных установах. Праз два гады Шышкоў звярнуўся з просьбай да папячыцеля Віленскай навучальнай акругі аб узмацненні вывучэння рускай мовы ў Галоўнай семінарыі, што знаходзілася ў Вільні і рыхтавала служыцеляў для уніяцкай царквы, і аб увядзенні там у якасці паасобнай дысцыпліны царкоўнаславянскай мовы. Няцяжка зразумець, што ўсё гэта рабілася ў мэтах падрыхтоўкі маладых уніяцкіх клірыкаў да маючага адбыцца скасавання гэтай канфесіі на Беларусі і ў Літве. У той час многімі сцвярджалася, што для паскарэння вяртання уніятаў у праваслаўе галоўнае схіліць да гэтага грамадскую думку самога уніяцкага духавенства, а просты народ не трэба турбаваць, бо ён адразу ж далучыцца да праваслаўнай веры, як толькі гэтага пажадаюць яго пастары. І такое сапраўды назіралася.

Адначасова з русіфікацыяй духоўных семінарый і вучылішчаў у розных колах праваслаўнага духавенства ўсебакова абмяркоўваліся шляхі правядзення аналагічнай работы і ў саміх уніяцкіх храмах. Шырока паступала з Расіі на Беларусь рэлігійная літаратура. Але многія уніяцкія свяшчэннікі адмаўляліся карыстацца прысланымі з Пецярбурга і Масквы служэбнікамі, прысланая літаратура мёртвым грузам ляжала ў скляпеннях уніяцкіх храмаў. Доўга не думаючы, Іосіф Сямашка аддаў Літоўскай кансісторыі загад адабраць ва ўсіх цэрквах старажытныя уніяцкія служэбнікі пачаеўскага, віленскага і супрасльскага друку, якія падлягалі знішчэнню.

Такі ж жахлівы лёс напаткаў і рознага роду атрыбутыку уніяцкіх цэркваў. Выкідваліся з іх арганы, ліквідоўваліся амбоны (кафедры), здымаліся бакавыя алтары... І ўсё гэта на вачах у вернікаў! Калі такое бясчынства рабілася ў Супрасальскім манастыры (Беластоцкі павет), народ валам валіў у царкву, дзверы якой не зачыняліся ні ўдзень, ні ўночы. Вось як апісаў гэтую трагічную падзею як сведка архімандрыт Мікалай: «На арганах ігралі некалькі дзён амаль бесперапынна, а народ «крыжам» ляжаў у царкве. Унутры царквы і на манастырскім цвінтары народ, са слязьмі на вачах, гучна спяваў песні з любімага ім богагласніка,—у апошні раз пад гукі арганаў». Да красавіка 1837 года ў Літоўскай епархіі знішчылі 117 арганаў, 414 амбонаў.

Адчуваючы сябе моцна пакрыўджанымі царкоўнымі і свецкімі ўладамі Расійскай імперыі, уніяты ў роспачы часта гатовы былі шукаць паратунку з зусім процілеглага боку — у католікаў. Пра гэта можа сведчыць такі факт, як хрышчэнне ў 1834 годзе каля 35 тысяч дзяцей з уніяцкіх сем'яў па каталіцкіх правілах. Жорсткая палітыка царызму і рускай праваслаўнай царквы ў дачыненні да уніятаў прычынілася да таго, што значная частка іх нібыта ў адплату раз-пораз пераходзіла ў лагер католікаў, што таксама мела цяжкія, адмоўныя наступствы для беларускай культуры, бо тыя, хто прымаў гэтую веру, рана ці позна павінен быў жыць духоўнымі традыцыямі чужога народа і, як вынік усяго гэтага, страціць сваю этнічную самасвядомасць, да чаго якраз і імкнулася каталіцкае духавенства Польшчы ў сваіх адносінах да беларусаў.

На моўную сітуацыю на Беларусі вельмі негатыўна паўплывалі погляды і прак-

HOMO HUMANUS

# МОЦНЫ СЛАБЫ ЧАЛАВЕК

Стаю я... за свой капрыз і за тое, каб ён быў мне гарантаваны, калі спатрэбіцца.

Са слоў Парадаксаліста.

«Мы не ўмеем жыць...» Відаць, шмат каго «заелі» гэтыя словы сп. В. Каваленкі, які выступіў у нашай рубрыцы з развагамі аб духоўным парубежжы, якое чакае савецкую папуляцыю. Але, на жаль, шаноўны аўтар замаўкае, калі, па логіцы разваг, патрэбна сканкрэтызаваць як «умець жыць», як нам «выстаяць» і «выпрастацца» ў краіне, закілзанай сіламі крызісу.

Мяне неяк збянтэжыла і ўстурбавала безумоўная ўстаноўка на «ўзмацненне». Паспрабуем паразважаць, «хто такое дужы». Мо — класічны герой сацлітаратуры П. Карчагін, мо — амерыканскі асілак А. Шварцнегер, мо — нязломны палітык Б. Ельцын? Але ці не выклікаюць іх постаці акрамя захаплення ў нечым і іронію? Мне нават здаецца, што панятці «моц» і «слабасць» прыдуманы людствам, каб не капацца ў жыццёвых звязах, а аблегчыць сваю ацэначную місію звыклым маралізатарствам: нехта вось малайчына, а нехта — ануча, аб якую можна выціраць ногі. Прычым свае суб'ектыўныя ацэнкі кожны з нас спрактыкаваўся даказваць і даказваць пераканаўча. Прыкладам, апошні віртуозны доказ, з якім пры азнаямленні нельга не пагадзіцца, — тое, што К. Маркс з'яўляўся... свядомым сатаністам (кніга Марчанкі «Карл Маркс?»).

Намнога цяжэй і адказней быць «па той бок дабра і зла», на такі дослед хапіла мужнасці бадай толькі ў доктара Ф. Ніцшэ. А менавіта па-за маралізатарскімі сафізмамі, на маю думку, трэба шукаць першаматывацыю быцця ў яго вышэйшым, філасофскім сэнсе. Таму ўжыванне надалей лексем «моцы» і «слабасці» без двукосся матывавана толькі іх большай прыдатнасцю ў параўнанні з іншымі словамі для патлумачэння жыццёвага феномена, які мне падаецца вартым увагі.

Ці не задумваліся вы над тым, што генезіс чалавецтва стаўся магчымым, дзякуючы ні ў якім разе не сіле асобнай галіны класу прыматаў, а якраз дзякуючы яе непаўнавартасці, кволасці, страху перад пагрозай пагібелі і знікнення? Каб ўратавацца як з'явішча прыроды, гэтая асобная папуляцыя прыдумала асобную, адпаведную сваёй слабасці інстытуцыю — інстытуцыю культуры, квінтэсэнцыя якой — адносіны людства з прыродай (праца), паміж сабой (сям'я, дзяржава, права), з Богам (рэлігіі, культуры, вучэнні). Вось і ўся філасофія генезісу чалавецтва. **Чалавек выжыў і стаўся чалавекам дзякуючы сваёй слабасці.** 15 тысяч год homo sapiens толькі і прыдумваў спосабы абароны слабасці: хаваўся ў пячоры ад звяроў, ратаваўся агнём ад холаду, з голадам змагаўся новымі прыладамі працы, пагрозу фізічнага вымірання зліквідаваў утварэннем сям'і і г.д. Сёлета мы маем культуру, якая сінтэзуе ўсе гістарычныя спосабы змагання чалавецтва за самаё сябе. Захад, верагодна, рухаецца ў авангардзе гэтага змагання.

Прагрэс асобы, на маё меркаванне, таксама заснаваны на гэтай жа агульнавідавай заканамернасці. Некалькі прыкладаў для падмацавання тэзы: у старажытнай Грэцыі Дэмасфен стаўся знакамітым прамоўцам дзякуючы прыроджанай заганнасці артыкуляцыйнага апарата — заіканню. Імкненне пазбегнуць непаўнавартасці дапамагло Дэмасфену набыць прамоўніцкія здольнасці. Ньютан нарадзіўся фізічна кволым, «сямімесячным дзіцёнкам», але — гэта кампенсавалася інтэлектуальным геніем. Па сведчаннях сучаснікаў У. Леніна, у правадыра сусветнай рэвалюцыі з дзяцінства адсутнічаў комплекс маральнасці. Але гэты недахоп надзвычайна кампенсаваўся талентам палітыка (пазбегам ацэнак).

Апірышча поспехаў і дасягненняў — не сіла, а слабасць! І гэтага парадокса, відаць, не трэба баяцца, бо за няпэўным словам «слабасць» усведамляецца, як паказваюць прыклады, зусім не кволасць, а ўнутраны рухавік прагрэсу і асобы, і грамадства. Пераадольваючы слабасць (хібнасць, заганнасць, неспатоленасць, недахоп — перыфразу можна падоўжыць), адбываецца ейнае сцвярджэнне і — адмаўленне. Бо напавер за асвоенай мадэллю пераадолення слабасці выяўляецца ўжо не што іншае, як самы непрыступны бастыён усіх часоў і народаў — чалавечая Асоба, узмацаваная на індывідуальнасці, якая, у сваю чаргу, зададзена «слабасцю».

Усядужасць — гэта ўжо з сакрментаў таталітарызму. Гляньце больш пільна на архітэктурныя выявы будаўнікоў светлага будучага, на іх шахцёрскія твары, перачытайце адпаведныя лозунгі, па якіх мы засвойваем дух нашай дзяржавы, — яны сімвалізуюць абсалютную моц, яны — здань перамогі над усім і ўся. Яны па той бок чалавечага. Зрэшты, гэтая прымроеная грамадствам сіла, відаць, таксама пэўны від заганнасці, бо яна існуе на гледзішчы самай сапраўднай грамадскай слабасці. Мы жывём у такім грамадстве.



Культурная палітыка ў ім будуецца на пастулаце беззаганнасці чалавека: сацыяльная сфера, гарадскія камунікацыі разлічаны ў нас на бясконца моцную істоту, слабым і нездаровым проста няма месца ў сістэме абслугоўвання і ўвогуле прафесійнай дзейнасці; яны — чужыя пасярод сваіх. Прапаганда, праводзячы «тыдні» міласэрнасці і дабрачынныя «акцыі», быццам знарок падкрэслівае заганнасць інвалідаў, замацоўвае іх «унутраную эміграцыю».

Адпаведным чынам дратуецца прырода хомо хуманус і ў сферы савецкай педагогікі, дзе апірышча робіцца на крыштальна чыстым, «маральна ўстойлівым» чалавеку, хаця вопыт сусветнай педагогікі сведчыць аб тым, што толькі грэшнік у мінулым становіцца добрым выхавацелем. Вы звярніце ўвагу на такую характэрнасць: ніводзін святы, канізаваны царквою, не меў ідэальнага мінулага, усе зрабілі эвалюцыю ад грахоўнасці да духоўнага подзвігу над сабой. Ці не ў гэтым сэнс выхаваўчага ўздзеяння рэлігіі на грамадства?

Школа і сродкі масавай інфармацыі нашай сацдзяржавы працягваюць фарміраваць грамадскі менталітэт паводле імператыву бездакорнасці. Ідылічныя казкі пра дзядулю Ільіча, бадай, наймацней западаюць у дзіцячыя душы, чымся іншыя. (Цікава, дарэчы, што зробіцца са структураванымі асобамі («акцябраты» — «піянеры» — «камсамольцы» — «камуністы»), калі яны сёння прачытаюць пэўныя вынятківі з «Окоянных дней» І. Буніна і даведаюцца, у прыватнасці, аб далёка не бяскрыўдных «слабасцях» сп. Ульянава. Ці пазнаёмяцца ў часопісе «Смена» з нататкамі аб сп. Зіноўеве, якому камуністычная мараль, як высвятляецца, зусім не замінала жыць адначасова з дзвюма жонкамі і шчыраваць такія банкеты, якіх Піцер не ведаў і пры Кацярыне ІІ?. Відаць, яшчэ доўга давядзецца нам здымаць міфічную луску з архіпелага савецкасці...

Паспалітая місія дзяржавы, якая прэтэндуе на званне сільнай,—забяспечыць сваім грамадзянам магчымасць вольнай праявы чалавечых слабасцей без розных «шкал годнасці» і маральнай цэнзуры. З мараллю мы здолеем разабрацца без пасярэднікаў. Нам абрыдла ў чарговы раз завяршаць грамадскую самарэфлексію толькі серыяй церпкіх анекдотаў аб навязлівай мачасе — дзяржаве, якая заняволіла наша індывідуальнае ў самыя глыбокія схловы падсвядомасці. Няўжо цяпер, калі «Святло прыходзіць у свет» (вобраз Евангелля), мы не здолеем зрабіць крок да сонца?..

**Юрась ЗАЛОСКА.**

# Беларусы ва Усходняй Прусіі

## Нататкі з вандроўкі

**1946—1947 гады. Гады асноўнае хвалі перасяленцаў-беларусаў ва Усходнюю Прусію. З тае пары ніхто не цікавіўся лёсам нашых суродзічаў, іхнімі клопатамі і радасцямі. Але на пачатку 1991 года ствараецца Таварыства беларускай культуры «Каралявец» (беларуская назва Калінінграда), праведзена некалькі сходаў, рост нацыянальнае самасвядомасці мясцовых беларусаў вымагаў наступнага канкрэтнага кроку. Спадар Ігар Шаховіч, старшыня ТБК «Каралявец», распрацаваў маршрут для двухдзённае вандроўкі па раёнах Усходняй Прусіі, заселеных пераважна беларусамі. Для ўдзелу ў вандроўцы былі запрошаныя прадстаўнікі маладзёжнай арганізацыі «Выбранецкія шыхты».**

...Першае, што адразу кідаецца ў вочы з вокнаў цягніка, — гэта нямецкія будынкі, нямецкія брукаваныя ходнікі, вуліцы, гасцініцы. Але будынкі колерам шэрыя, часта занядбаныя, а дзе і развaленыя, а брук выглядае праз сучасны асфальт толькі ямамі. Як пасля не раз казалі нам: «Пражылі мы тут усё жыццё, але ўсё роўна зямля чужая. Была б свая хата — ох і дагледзілі б яе, а нямецкая бурыцца, і Бог з ёю. Мы нават не падпіраем». Што яшчэ ўразіла — савецкія назвы, зусім не натуральныя для гэтае зямлі; яны ствараюць яшчэ большую бездань паміж насельнікамі і гэтай зямлёю. Здаецца, што сапраўдны гаспадар толькі выйшаў, і ўсе стаяць разгубленыя: што рабіць? І доўжацца разгубленасць і беспарадак.

Наш аўтобус пад'ехаў да Праўдзінска (Фрыдланда). Гэта райцэнтр «беларускага» раёна. Мы выходзім і бяром накірунак на Новабабруйск. Нас цікавіць стан беларускай мовы, нацыянальнай свядомасці, ці памятаюць людзі песні, як адносяцца да стварэння беларускіх школаў.

Першы ж хутар — і стрэча з першым беларусам. «Мова? — не, ня ведаю. Песні? — Толькі чуў. А дзяцей як запісалі: беларусамі ці расейцамі? — Расейцамі. Я расеец ужо».

Гэта быў першы і адзіны выпадак, калі нам сустрэўся «асіміляваны» беларус. Усе астатнія імкнуліся размаўляць з намі па-беларуску, з ахвотаю распавядалі пра тое, як прыехалі сюды, у «рай» (так казалі людзям пад час агітацыі на пераезд), як галадалі разам з немцамі і як разам паміралі. У пасёлку Дружба (Аленбург) Міхаіл Андрэевіч Пратасевіч распавёў, як людзі баяліся паміраць, бо стаяла высокая вада, і ў яму пад труну падкладалі бярвенні, каб яна не танула, а тая ўпарта ўсплывала, калі яе пачыналі засыпаць зямлёй.

Цікава адзначыць, што за два дні вандроўкі мы не сустрэлі аніводнага заходняга беларуса. «Іх амаль што няма», — сказалі нам у вёсцы Ліпнёва. І сапраўды, падумалі мы, навошта заходнебеларускаму селяніну, які ў 1946 годзе яшчэ меў уласную зямлю, ехаць некуды — у абяцаны Масквою былы нямецкі «рай»? Хаця не, разважалі мы далей, згадаўшы словы Віктара Апанасавіча Жаўткевіча з Новабабруйска: «У нас жа хаты на Беларусі саламяныя былі, а тут!.. Мураваныя, двухпавярховыя, дахоўка!.. Аж страшна. Першыя месяцы ўсё баяліся, дзверы з сярэдзіны дротам закручвалі. А прыгожа як было, а рыбы колькі!»

Беларус, як бачыце, спачатку нават разгубіўся, але беларус ён заўсёды беларус, і таму мы, выбіраючы хату для знаёмства з гаспадарамі, звярталі ўвагу на яе выгляд, ці прыбраны двор, ці растуць яблыні, кветкі. І ні разу не памыліліся — у дагледжаных хатах жылі беларусы. Вы ўяўляеце, як добра, калі ты — беларус — сустракаеш далёка ад Бацькаўшчыны беларуса.

Перад самым ад'ездам з Караляўца мы набылі першы нумар «Кёнигсбергского курьера» і прачыталі там «Открытое письмо Канцлеру ФРГ господину Гельмуту Колю, Председателю Верховного Совета РСФСР товарищу Борису Ельцину». «Мы не можем делать вид, будто на земле, на которой мы живём без малого полвека, до нас ничего не было... и без того мы достаточно долго играли в эту нелепую игру!». «Обращение» — гэта пакет прапаноў мясцовай інтэлігенцыі па экалагічным і культурным адраджэнні Усходняй Прусіі — аднаўленне разбуранага і засыпанага зямлёю старажытнага цэнтра горада — Кнайпхофа, дабудова шашы «Рэйхсаўтабан № 1 Берлін — Эльбінг — Кёнігсберг», стварэнне вольнага прадпрымальніцтва, выданне «Курьера» на нямецкай мове з распаўсюджаннем у ФРГ.

Можа быць, менавіта з гэтае прычыны так упарта курсуюць па Прусіі чуткі, што «Гарбачоў нас немцам прадаў». А адраджэнне вельмі патрэбна гэтай зямлі. Тады, дасць Бог, не прыйдуць болей ні ў чыю галаву думкі руйнаваць нямецкія могілкі і будаваць на іх стадыён, не будуць болей у кірхах спартыўныя залы і на велікоднае вітанне «Хрыстос уваскрос!» вам міралюбіва адкажуць: «Сапраўды ўваскрос!».

І апошняе. Беларусы хочуць канцэртаў, беларусы хочуць беларускіх школаў, некаторыя хочуць вярнуцца: «Вільготна тут, і зямля — адна гліна». «Прыходзьце яшчэ, не забывайце нас». «Дзякуй», — чулі мы, выбранцы, усю дарогу. Бачылі слёзы.

Мы яшчэ туды вернемся.

**Ігар МІХНО,**
**сябра маладзёжнай арганізацыі «Выбранецкія шыхты».**
г. Мінск.




Заснавальнікі:
САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ
І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ БССР.

**Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.**

**Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.**
**Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара — 33-25-25; адказны сакратар — 33-19-85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ — 33-19-65; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі: Людміла КРУШЫНСКАЯ, Марыя ГІЛЕВІЧ — 33-19-85; аддзел літаратурнага жыцця: Алесь МАРЦІНОВІЧ — 33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ — 33-22-04; аддзел літаратуры: Юрась СВІРКА — 33-22-04; аддзел музыкі: Святлана БЕРАСЦЕНЬ — 33-21-53; аддзел тэатра, кіно і тэлебачання: Жанна ЛАШКЕВІЧ—33-21-53; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў: Пётра ВАСІЛЕЎСКІ— 33-24-62; аддзел народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62; аддзел навін: Віталь ТАРАС — 33-19-65; Юрась ЗАЛОСКА — 33-22-04; аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУШАЎ — 33-44-04; фотакарэспандэнт: Уладзімір КРУК — 33-24-62; бухгалтэрыя — 26-86-40.**

Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.

**Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ.**

**Рэдакцыйная калегія:**

**Заір АЗГУР, Алесь АСІПЕНКА, Анатоль БУТЭВІЧ, Анатоль ВЯРЦІНСКІ, Андрэй ГАНЧАРОЎ (нам. галоўнага рэдактара), Уладзімір ГІЛЕП, Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ, Лілія ДАВІДОВІЧ, Міхась ДРЫНЕЎСКІ, Алесь ЖУК, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Ігар ЛУЧАНОК, Уладзімір НЯКЛЯЕЎ, Нічыпар ПАШКЕВІЧ, Барыс САЧАНКА, Юрась СВІРКА, Рычард СМОЛЬСКІ, Уладзімір СТАЛЬМАШОНАК, Віктар ТУРАЎ.**

**Адказны сакратар Барыс ПЯТРОВІЧ.**

Індэкс 63856

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12